

Кацярына Бонда→4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



З Усходу→9

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 19 (3026) Год LIX | Беласток, 11 мая 2014 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**У прыгожы сонечны дзень, у чацвер, 1 мая гэтага года ў міхнаўскай святліцы каравайніцы пяклі вясельны каравай. Запрасілі да сябе ўсіх ахвотных з шырокай лешуцкай ваколіцы, а таксама „свайго” карэспандэнта „Нівы” з Новага Ляўкова ды знаёмых фатографаў з Беластока, Старога Ляўкова і Плянты.**







# Як „Ятрышнік” пячэ караваі







Жыхары Лешукоў і Міхнаўкі Нараўчанскай гміны — актыўныя людзі. Яны заснавалі ў сябе няўрадавую арганізацыю „Ятрышнік”. Мае яна сваю сядзібу ў прыгожай прасторнай святліцы ў Міхнаўцы (побач Лешукоў). Мэта дзейнасці „Ятрышніка” — культываванне традыцыі рэгіёна Нараўчанскай гміны і Белавежскай пушчы ды актывізацыя і інтэграцыя мясцовага грамадства. Зараз таварыства налічвае 40 членаў.

Таварыства „Ятрышнік” ладзіла дзве аўтарскія сустрэчы з мясцовымі беларускімі паэтамі Тадэвушам Кунцэвічам з Лешукоў, Верай Радзіванюк з Міхнаўкі і Кастусём Целушэцкім з Новага Ляўкова. Яно выдала зборнік вершаў Т. Кунцэвіча „Падляшша — мая старонка”.

Вопытныя каравайніцы жывуць у Нараўчанскай гміне. Пякуць яны адмысловыя караваі. У першы майскі дзень прыбылі з Лешукоў, між іншым, галоўная каравайніца Лідзія Харкевіч, з Міхнаўкі — беларуская паэтэса Вера Радзіванюк, а з Семяноўкі — прыхільніца „Ятрышніка” Барбара Бірыцкая. Мясцовыя бабулі ўзялі з сабой унукаў і унучак. Адна прыехала з дзвюма ўнучкамі з Падляўкова з-пад Белавежскай пушчы. Малалеткам і моладзі каравайніцы дазволілі рабіць гусачкі з цеста.

Усё неабходнае для каравая прынеслі ў святліцу і загадзя напалілі ў хлебнай печы. Калі мясілі салодкае цеста з цукрам і яйкамі, тады адзетыя па-святочнаму ў белыя блузкі (вышываныя ў раслінныя матывы, між іншым, у вінаградныя галінкі з пладамі) ды ў белыя фартушкі жанчыны спявалі абрадавыя перадвясельныя песні, паколькі каравай заўсёды пяклі напярэдадні вяселля (часта было гэта ў суботу). Мужчын, якія зайшлі ў вясельны дом, каравайніцы — у адпаведнасці з традыцыяй — абсыпалі мукой. Перад імі зачынялі дзверы і не ўпускалі. Мужчынам было забаронена заходзіць да каравайніц.

Цеста на каравай павінна — так здаўна прынята — быць без солі, каб жыццё маладажонаў не было салёнае ды каб у жыцці ўвесь час было ім соладка. Каравай мае быць высокенькі, кругленькі і цыцаты, як каравайніцы. Для дэкарацыі каравая з цеста зрабілі гусачкі ды г.зв. „рагачы” (цестам густоўна аблепленыя галінкі дваяны і траяны) і іншыя ўпрыгожанні.

Каравай удаўся надзвычай прыгожы і смачны. Усіх — старэйшых, моладзь і дзяцей — запрасілі за доўгі стол на салодкі пачастунак. Да першамайскага каравая прапанавалі віно, каву, гарбату і кампот. Старэйшыя жанчыны ўспаміналі свае вяселлі з тадышнім абавязковым караваем ды з маршалкам-завадатарам і цырымоніямі. І тут жа паплылі даўнія песні і прыпеўкі, якія зараз рэдка дзе пачуеце, а мо ўжо і не пачуеце. Цікава і весела было. Як на вялікім свяце.

У маі мае быць вяселле ў адной дзяўчыны з Міхнаўкі. Ці папросяць яна тутэйшых жанчын, каб спяклі ёй каравай?..

Кулінарныя майстар-класы „Абрад «каравай» у вёсках Нараўчанскай гміны і Белавежскай пушчы” падрыхтавалі старшыня Таварыства „Ятрышнік” Альжбета Кунцэвіч і яе намесніца Галена Марыёля Рэент (дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы) ды скарбнік Рыгор Здаnoўскі (ён — прыдворны фатограф „Ятрышніка”).

Мэта дзейнасці таварыства „Ятрышнік”, між іншым, культываванне традыцыі тутэйшага рэгіёна. І яно — як бачым — гэта паспяхова рэалізуе.

Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА



# Інфармацыйная вайна

Часамі здзіўляешся, наколькі эфектыўнымі бываюць самыя прымітыўныя метады абалваньвання шырокіх мас насельніцтва. Галоўнае, правільна падрыхтаваць глебу для гэтага пасеву. Як некалі сцвярджаў вядомы гітлераўскі ідэолаг, чым больш людзей знаходзіцца ў закрытай інфармацыйнай прасторы, тым лягчэй з іх ляпіць што заўгодна. Аднаго чалавека, адарванага ад разнастайнасці інфармацыі і пазбаўленага яе выбару і аналізу, ён браўся зрабіць фашыстам за паўгода, калі такіх людзей сто, то за месяц, ну а калі іх тысяча, то за тыдзень. Таму і заклікаюць лепшыя розумы чалавецтва да індывідуальнага роздуму. Маўляў, не збірайцеся людзі ў кучу, бо самі ж ведаеце, як гэта называецца. Але іх цяжка пачуць тым, хто ўжо меў неасцярожнасць патрапіць у бяздумную масу.

Жандары ніколі не былі вынаходлівымі ў філасофіі і іх метады пераканання настолькі прымітыўныя, што аніяк не могуць падзейнічаць на думаючага індывіда. Таму таталітарныя рэжымы заўсёды супраць індывідуалізму і збіраюць людзей, як кажуць у народзе, да стойла. Калгасы ды іншыя так званыя працоўныя калектывы гэта не эканамічныя адзінкі, а ідэалагічныя. Там любое глупства, пададзенае ў выглядзе лозунга кшталту „вучэнне Леніна вернае, таму што правільнае", падаецца ісцінай у апошняй інстанцыі, бо няма альтэрнатыўнай інфармацыі.

У нас, у Беларусі, да свабоднага выбару інфармацыі чалавек не прывучаны. Гэтая звычка, знішчаная яшчэ за часамі СССР. Калі я патрапіў у войска, у Чэхаславакію, то ўголас здзівіўся як жыхары гэтай краіны негатыўна ставяцца да савецкага „вызваліцеля". І мне з калегамі адразу ж і доўга распавялі, што гэтых няшчасных чэхаў падманулі і спакусілі сытым жыццём заходнікі і што яны, чэхі, Захаду зусім непатрэбныя. Патрэбная тым капіталістам толькі іх зямля ды іх багацце. Ну а саміх чэхаў, славакаў, венграў, румынаў, палякаў і нават усходніх немцаў заходнікі выкарыстаюць і знішчаць. І што самае страшнае, большасць нашых салдат у гэта паверылі і шчыра збіраліся ваяваць за іх шчасце супраць іх жа. А то прападуць жа яны без нас... Вось так, дзеля злых намераў, былі выкарыстаны добрыя якасці чалавечай натуры, бо не знайшлося іншай інфармацыі.

А савецкія прапагандысты ўжо знеслаўлялі прыбалтаў за тое, што таксама хочуць жыць па-людску. І казалі пра іх тое самае, што некалі пра чэхаў, венграў, палякаў... І знайшліся тыя, хто і ў гэта паверыў. Хоць убачылі ўжо на свае вочы, што тым, хто ўцёк, стала лепш, што ўсе, хто вырваўся з палону савецкай імперыі, назад не прасіўцца. Але ж прапаганда моцная штука, калі няма каму яе абвергнуць.

Цяпер мы ўсё гэта чуем пра ўкраінцаў. Адзін у адзін. І што самае страшнае — хапае тых, хто гэтую прымітыўную прапаганду ўспрымае. У Беларусі такіх людзей менш, чым у Расіі, бо да нас тут хоць нейкая альтэрнатыва з-за мяжы даходзіць. А ў Расіі ўвогуле замбаванне пераўзышло ўсе разумныя і нават неразумныя межы. І людзі там ужо нават не задаюць сабе простых пытанняў: Чаму расійская ўлада ганьбіць Захад, калі менавіта там яна трымае свае грошы, вілы, бізнес? Чаму іх улада ездзіць на заходніх машынах? Чаму дзяцей сваіх пасылаюць вучыцца ў Лондан, а не ў Калугу? Чаму амаль кожны расіянін, якому ўдаецца атрымаць від на жыхарства на Захадзе, назад не спяшаецца? І ці пасля гэтага можна паверыць, што некалькі мільёнаў жыхароў усходу Украіны не хочуць мець магчымасці жыць у Еўрасаюзе?! Але ж многія вераць...

Сапраўды, масавая прапаганда робіць сваю справу. І ўсё гэта з-за адсутнасці шырокай альтэрнатыўнай інфармацыі, якая дазваляе чалавеку самому рабіць высновы. На паслясавецкай прасторы зроблена ўсё, каб яе было настолькі мала, што і не чуваць амаль, як тады, у СССР. І зроблена гэта, каб той СССР адрадзіць — магчыма ў выглядзе іншай імперыі, з іншай назвай. Галоўнае, што з той самай сутнасцю, дзе аднабока праінфармаваны чалавек становіцца проста робатам. Знішчэнне альтэрнатыўнай інфармацыі — галоўная прыкмета адраджэння савецкай імперыі. І ці ўдасца тую імперыю адрадзіць, залежыць таксама і ад таго, хто зараз возьме перавагу ў інфармацыі.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Прыклад расіцы



У папярэднім фельетоне я намякнуў аб пасланні Аляксандра Лукашэнкі да народа, у якім ён заклікаў да стрыманасці апетыту. Асабліва апетыту на мяса. Як аказалася, гэта не прэзідэнцкі капрыз. Нават Маці-прырода сама дала гэтаму добры прыклад. Вось некаторыя драпежныя расліны з віду расіц круглалістых (drosera rotundifolia), пачалі масава пераходзіць на вегетарыянскую дыету. Сцвердзіў гэта выдатны англійская батанік, доктар Джонатан Мілет з Універсітэта горада Лафбора, які прыкмеціў, што кожная наступная генерацыя гэтага віда, які жыве выключна ў балотным, пазбаўленым азоту асяроддзі, паказвае штораз большую агіду да спажывання насякомых, з'яўляючыхся іх адзінай крыніцай гэтага элемента. Больш за тое, яго доўгатэрміновыя даследаванні паказалі, што на вегетарыянскай дыеце расіцы адчуваюць сябе выдатна, хоць неабходны для іх жыцця азот атрымліваюць з дажджу, забруджанага парамі чалавечай цывілізацыі. Так што без мяса можна таксама! І што на гэта скажуць беларусы? Ну, жаруць далей, хоць здагадка, што чалавек, які есць тлуста, хутка папраўляецца, а калі папраўляецца, зараз займае ўсё большую прастору, што ў вышэйшай ступені правільнае. У выпадку некантраляванага патлусцення ўсёй нацыі гэта прыводзіць да парушэння дзяржаўных межаў. Тады прагнасць у ежы мае прагрэсіўны характар, але падвойнага віду. Або грамадзяне індывідуальна пераліваюцца праз дзяржаўныя межы, як разадзьмуты жывот над сцісканым яго поясам, або дзяржава адпусціць на поясе яшчэ адну дзірку, узбуджаючы суседскія сваркі за мяжу. Расіі, абжэрстай нафтай і газам, дзіркі ў поясе, без сумневу, кончыліся. Ужо разліла свой каўдун на Крым, і, верагодна, неўзабаве на Украіну. Цікава, што ўбачыць свет, калі з яе, нарэшце, злезуць порткі? У супрацьлегласць гэтаму, беларусы пільнуюць свайго і з задавальненнем аб'ядаюцца мясам. Калі не хапае яго ў айчынных крамах, яны купляюць яго ў замежных. Дазваляюць сабе гэта, пакуль працуюць у дзяржаўных прадпрыемствах і атрымліваюць заработную плату ад дзяржавы. Хоць баланс калорый іх працы, укладзенай у непрадуктыўную вытворчасць, не балансуецца з высілкам дзяржавы, каб утрымаць у руху рынкавы абарот зробленай імі непатрэбнай прадукцыі, але з гэтага ёсць выхад. Будучы ў той жа час яго вытворцам і спажыўцом, дзяржава купляе ў сябе масавы прыбавачны прадукт, напрыклад, трактары, а затым пераразмяркоўвае іх паміж дзяржаўнымі прадпрыемствамі па цэнах ніжэйшых за сабекошт. Эканамічна гэта здаецца быць недарэчным, але дзякуючы такому абароту тавараў ствараецца дабаўленая вартасць, якая балансуе іх лішнюю прапанову над больш чым пасрэдным попытам. Гэтай вартасцю з'яўляецца дзяржаўная маржа, фармаваная, дарэчы, у залежнасці ад палітычнай патрэбы ўлады, якая можа яшчэ сама сябе абмяжоўваць. Так улада ідзе на самаабмежаванне, каб грамадзяне маглі даволіць сабе мяса. Але паступова канчаецца цярпенне. Сведчаннем гэтага з'яўляецца заклік прэзідэнта да беларусаў, каб самаабмежаваліся ў спажыванні мяса.

З вышэйсказанага мы бачым, што самаабмежаванне з'яўляецца глабальнай тэндэнцыяй, якую зразумелі нават круглалістыя расіцы, але чаго не можа зразумець прэзідэнт Обернуцін. Па дадзеных фінансавых экспертаў, сусветны капітал выведзе з Расіі ў гэтым годзе больш чым 100 мільярдаў інвеставаных долараў, неабходных для яе цывілізацыйнага развіцця. Без сумневу, меню расейцаў неўзабаве будзе зніжанае да «картошки с салом». Але ці гэта турбуе Пуціна, які моцна трымае ў руцэ доўгую, вельмі доўгую лыжку, якая, безумоўна, дасягне далікатэсаў схаваных пад расійскім сталом? Нават прыклад распушчаных немцаў, раздзертых паміж лаяльнасцю ЕС і эгаістычнымі інтарэсамі ў Расіі, якія цішком вывелі з яе 20 мільярдаў долараў, даказвае, што ім не чужая ідэя самаабмежавання. Пуцін, усё ж, не збіраецца самаабмежавацца, хоць пачалі самаабмяжоўвацца нават палякі, такія нехаўтлівыя да якіх-небудзь абмежаванняў. Усё больш і больш гатовыя накіраваць яны свае выбарчыя сімпатыі на Грамадзянскую платформу, якая ў стане ўтрымаць цяперашні і моцны статус-кво Польшчы ў Еўропе, парушанай авантурай Пуціна. ПіС з яго ваеннай рыторыкай і канфрантацыйнай пазіцыяй абсалютна састарэлы як на гэты цяжкі час. Ці не пара і яму самаабмежавацца? Абы толькі хутчэй. Таму што і ПіС Польшчы патрэбнае. Без яго станоўчай крытычнай прысутнасці ГП хутка забылася б аб самаабмежаванні партыйнага партыкулярызму, кумаўства і кар'ерызму сваіх членаў. Такім чынам, самаабмяжуймася ўсе. Ва ўсім. Такі час...

**Міраслаў ГРЫКА**



Вачыма еўрапейца

# Смак і пах Еўрасаюза

Беласток і ўся Польшча 1 мая адзначала дзесяцігоддзе далучэння да Еўрапейскага Саюза. У падляшскай сталіцы — як і належыць таксама кампаніі перад выбарамі ў Еўрапарламент — сарганізавалі яго гучна і не толькі таму, што дакладна ў гадзіну падпісання пагаднення аб далучэнні стрэлілі феерверкі. На беластоцкім рынку Касцюшкі быў торт, якім улада дзялілася з беластачанамі. Дарэчы, апрача феерверкаў частаванне тортам з грамадзянамі становіцца ўсё больш і больш папулярнай формай ушанавання святаў мясцовымі валадарамі; 2 мая разам з мясцовымі жыхарамі нават спажылі торт у выглядзе нацыянальнага сцяга. Падчас юбілейных урачыстацей натоўпы людзей удзельнічалі ў канцэрце зорак Юлі і Сільвіі Гжэсьчак з баруканнем на фоне (у натоўпе), падрабязна апісаным у СМІ. Былі конкурсы ведаў аб еўрапейскай супольнасці, з узнагародай паглядзець на Беласток з вышыні платформы ў некалькі дзесяткаў метраў. На ёй адбыўся «Dinner in The Sky» («Вячэра ў небе»), арганізаваная прэзідэнтам Тадэвушам Трускаляскім і маршалкам Яраславам Дважанскім. Журналісты маглі пабачыць рынак Касцюшкі з птушынага палёту, і — як пазней паведаміла адна з газет — спакуса зрабіць цікавыя фатаграфіі з такой вышыні была мацнейшай чым голад (хаця што іншае можна было ўбачыць на некаторых фотаздымках). Паколькі я не маю звычкі карыстацца запрашэннямі на сумесное бяседаванне з уладай, не паехаў я разам з іншымі журналістамі ўверх гэтай прэзідэнцка-маршалкаўскай платформы. Акрамя таго, я пакутую боязззю вышыні. Як я прачытаў у прэсавых справаздачах, маршалак быў трохі здзіўлены адсутнасцю пытанняў прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі. Вядома, 10-годдзе далучэння да ЕС было перш за ўсё магчымасцю пахваліцца зменамі, якія адбыліся ў Падляшскім ваяводстве і яго сталіцы пры падтрымцы ЕС, што абранцы наўзброеным вокам маглі ўбачыць якраз з платформы.

У краіне таксама гучным першамайскім далучальным святкаваннем папярэднічала публікацыя Міністэрствам замежных спраў даклада «10 гадоў Польшчы ў ЕС» аб'ёмам больш чым у 250 старонак. Пасля яго прачытання можна дайсці да высновы, што Польшча за межамі ЕС была б беднейшая, палякі мелі б ніжэйшую заработную плату, узровень беспрацоўя дасягнуў бы больш высокага ўзроўню, і калі б не далучэнне, бягучы валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва быў бы на ўзроўні таго некалькігадовай даўнасці. Звярнулі ўвагу: «Еўрапейская інтэграцыя з'яўляецца камандналй гульнёй. Перамагаюць у ёй асабліва тыя, хто ўмее ўпісаць свой уласны інтарэс у інтарэс еўрапейскі, праявіць гнуткасць і разуменне да патрабаванняў іншых, паслядоўна аргументуе, умела вядзе перамовы, трымае свае абавязацельствы — калі трэба — ведае, як ісці на кампраміс». Таксама згадваецца членства Польшчы ў кантэксце ўсходніх суседзяў. Чытаем: «У гэтым кантэксце найбольшым інстытуцыянальным поспехам за апошняе дзесяцігоддзе стаў запуск Усходняга партнёрства ў 2009 г. Польска-шведская ініцыятыва атрымала шырокую падтрымку на форуме ЕС. Баланс амаль 5-гадовай дзейнасці Партнёрства і цэласці палітыкі ЕС у адносінах да постсавецкай прасторы здаецца быць станоўчым, хоць на рэальныя змены ва ўсходніх партнёраў трэба яшчэ шмат часу. Усходняе партнёрства было і з'яўляецца інструментам будавання падтрымкі ў ЕС для стварэння еўрапейскай перспектывы для Украіны, Малдовы і Грузіі». Няма згадкі тут пра Беларусь, але і іншыя краіны Усходняга партнёрства — Арменію і Азербайджан. Наконт будучыні ва ўсходнім вымярэнні падкрэслена ў агульных рысах наступнае: «Актыўнасць Польшчы і ЕС на Усходзе ў бліжэйшыя гады павінна быць распрацавана на аснове планавага падыходу і цеснага супрацоўніцтва з еўрапейскімі партнёрамі, як буйнымі краінамі, так і польскімі суседзямі ў рэгіёне». Я шукаў у справаздачы матываў звязаных са становішчам нацыянальных меншасцей у дзесяць гадоў пасля далучэння да ЕС. Не знайшоў.

Тым часам у рамках святкавання юбілею падляшскі ваявода Мацей Жыўна паехаў на польска-беларускую мяжу. Разам з кіраўнікамі Падляшскай часці Памежнай аховы і Мытнага кантролю пад дэвізам «Адчуй Саюз» распаўсюджвалі сярод вадзіцелей і пасажыраў, грамадзян Беларусі, якія перасякалі мяжу, у духмяныя кулоны з лагатыпам ЕС. Ваявода тлумачыў журналістам: «Каб з усмешкай вітаць нашых суседзяў з Беларусі, вітаць у Польшчы, дзе мы святкуем 10 гадоў у Еўрапейскім Саюзе, раздаем пахі, запрашаючы Беларусь у ЕС».

У пагранпераходы на Падляшшы ЕС інвеставаў каля 250 млн. злотых. Падчас хепенінга ў Кузніцы-Беластоцкай не было торта так, як праз дзесяць гадоў пасля далучэння Польшчы да ЕС няма ў адносінах з Беларуссю вырашаных пытанняў завысокіх коштаў віз і іх хуткай выдачы для грамадзян Беларусі і — па віне беларускага боку — не ўступіла ў сілу Пагадненне аб малым памежным руху, а таксама — як вынікае з даклада Міністэрства замежных спраў з нагоды дзесяцігоддзя — адступае перспектыва збліжэння Беларусі да ЕС. У гэтых пытаннях на самой справе можна абысціся толькі пахам.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# Падляшша: — памяць — ідэнтычнасць — развой

У чароўнай абстаноўцы Падляшскага музея 11 красавіка сустрэліся стваральнікі і героі «Падляшша. Памяць, ідэнтычнасць, развой». Рэкламная сустрэча з жыхарамі Беластока стварыла магчымасць успомніць мінулае аб пачатку ваяводства, нараджэння суб'ектыўнасці сталіцы рэгіёна ці аб адышоўшых выдатных асобах нашага рэгіёна. Сустрэча таксама стала магчымасцю для сумеснай дыскусіі аб магчымасцях і напрамках развіцця Падляшскага ваяводства, таксама і аб адрозненні ў разуменні «падляшскасці». У сустрэчы прынялі ўдзел Яраслаў Дважанскі — маршалак Падляшскага ваяводства і героі кнігі: Анджэй Струміла, Чэслаў Адам Дабронскі, Анджэй Ляхоўскі, галоўны рэдактар «Газеты ў Беластоку» Гжэгаж Дамброўскі (узяў інтэрв'ю ў Лявона Тарасэвіча), Маргарыта Дмітрук, Ігнат Карповіч, Яраслаў Пэршка і Дарота Пэршка. Сустрэча аб кнізе была пачаткам дэбаты, абмену думкамі пра тое, як бачыцца Падляшша і аб якім мараць найбольш вядомыя прадстаўнікі культуры нашага рэгіёна. Было настальгічна, часам забаўна, часам з сумнай турботай. Кніга з'яўляецца шматгалосай поліфаніяй аб'яднанай рознымі перажываннямі, думкамі, вопытам, поглядамі герояў кнігі.



М.Гадлеўская-Сіверская, А.Ляхоўскі, І. Карповіч, А. Струміла, Д.Пэршка, Я.Пэршка, М.Дмітрук, Ч.А.Дабронскі

Кніга была выпушчана па заказе Маршалкоўскай управы ў якасці рэзюмэ святкавання 500-годдзя Падляшша. Сувязная ідэя кнігі ў тым, каб адказаць на пытанні: дзе мы знаходзімся, хто мы, куды ідзем? Пытанні былі пастаўлены невыпадковым людзям, добра вядомым у рэгіёне, краіне, свеце — асобам, якія родам з Падляшша, якім Падляшша з'яўляецца натхненнем, ці стала іхнім абраным месцам для таго, каб жыць і ствараць. Кожны з аўтараў (гісторыкаў, мастакоў, пісьменнікаў) мог аб гэтым расказаць так як хацеў. Атрымаліся эсэ і некалькі інтэрв'ю. Аўтарамі кнігі з'яўляюцца пісьменнікі, мастакі, гісторыкі і эколагі. Падляшша бачыцца іх вачыма ў далёка не адзінай канцэпцыі і апавядальнай форме. Сустрэліся тут гістарычны нарыс, літаратурнае эсэ, размовы, анекдоты, успаміны і паэтычныя рэфлексіі, навукова-папулярныя, настальгічныя, правакацыйныя, крытычныя, празорлівыя або з пачуццём гумару. Такі разнастайны збор у нестандартнай форме ставарае цікавы, розных адценняў партрэт рэгіёна.

— 500 гадоў гісторыі нашага ваяводства, гісторыі нашага рэгіёна сталі нагодай, каб паставіць сабе самім некалькі пытанняў і пашукаць на іх адказы: адкуль мы прыйшлі, куды мы ідзем, дзе мы знаходзімся і хто мы ёсць? Пытанні мы паставілі аўтарам публікацыі. Я наўмысна не называю гэтага выдання кнігай ці альбомам. Я б назваў гэтую кнігу дыскусіяй і спробай адказаць на гэтыя пытанні, — адкрыў сустрэчу, прасоўваючую выданне, маршалак Падляшскага ваяводства Яраслаў Дважанскі. — Людзі, запрошаныя намі да дэбаты маюць права адказаць на гэтыя пытанні. Я перакананы таксама, што аб тым, што тут напісана, будзе яшчэ гучна.

З Лявонам Тарасэвічам, адным з найвялікшых мастакоў Польшчы, размаўляе Гжэгаж Дамброўскі, са скульптарам Яраславам Пэршкам з Гайнаўкі — дачка мастака Дарота. Мастак Анджэй Струміла ў вельмі асабістых нататках расказвае пра месцы і людзей Падляшша. Эсэ склалі таксама гісторык Адам Дабронскі, музеязнавец Анджэй Ляхоўскі — багата акрашаючы тэкст анекдотай і вялікай колькасцю гістарычных дробязей. Аб падляшскай прыродзе піша натураліст Адам Вайрак з Тэрэмісак у Белавежскай пушчы. Кшыштаф Чыжэўскі, ураджэнец Познані, кіраўнік Цэнтра «Пагранічча», які за месца, каб жыць і працаваць, у сваю чаргу, абраў Сейненшчыну — піша пра сённяшні дзень Падляшша як аб стракатай краме разнастайнасці. Можна прачытаць тэксты мастачкі Маргарыты Дмітрук (разам з яе суб'ектыўна-інтымнай картай Падляшша), Малгажаты Незабітоўскай і Тамаша Тамашэўскага — фатографа, які любіць здымаць Падляшша. І, нарэшце, Ігната Карповіча, пісьменніка, які, як Тарасэвіч (дарэчы, ягоны сваяк) Падляшша пакінулі на некаторы час, каб вярнуцца зноў і свае выдатныя творы ствараць у вёсцы — Случанцы ці Валілах.



Анджэй Струміла падпісвае альбом Аляксандру Сасне

— Я не хачу быць адным з імігрантаў, таму што гэта мяняе менталітэт, выкараняе, — сказаў мастак Лявон Тарасэвіч.

І так, у прыватнасці, тлумачыць сваё рашэнне аб вяртанні і выбары на культурную базу месца свайго дзяцінства — Валілаў.

Дыскусію ў Падляшскім музеі вяла Магдалена Гадлеўская-Сіверская. Першым выступіў прафесар Чэслаў Адам Дабронскі, вядомы спецыяліст па гісторыі нашага рэгіёна. 1513 год гэта найстарэйшая дата, якая з нашым рэгіёнам гістарычна асацыюецца. Першы ваявода не здолеў па-сапраўднаму стварыць ваяводства, зрабіў гэта яго пераемнік ужо ў 1520 г. Так на самой справе 500-годдзе можам святкаваць яшчэ да 2020 года, — жартаваў прафесар Дабронскі.

Анджэй Струміла:

— Я б хацеў сказаць пра дзве вельмі важныя для мяне і Падляшша месцы і асобы. Я абдумана выбраў Падляшша на сваю айчыну, краіну, у якой я асеў. Прыгадвала яно мае сямейныя сувязі, маё дзяцінства, маладосць. Мой дзед і бацька паходзілі з Мінска, а маці — з Аўшктоты, з паўночнай Віленшчыны; мой дзед меў засценак Судаты, які межаваў з Зулавам, арандаваным Пілсудскімі. Я сваю маладасць правёў на Навагрудскай і Віленскай землях. Таму, калі я апынуўся ў Польшчы, шукаў краіны падобнай. І людзей. Хачу сказаць, між іншым, пра Сакрата Яновіча і Лявона Тарасэвіча... Сакрат Яновіч нарадзіўся ў 1936 годзе ў Крынках і там памёр у 2013 г. У Крынкі, соннае мястэчка на канцы свету, якое калісьці падскарбі Вялікага Княства Літоўскага Антон Тызенгаўз пабудаваў на ўзор Парыжа, ехалася дарогамі праз пусцеючую краіну, званую ўсходняй сцяной. У сваім доме, звычайным і цёплым, Сакрат заварваў гарбату і наліваў штосьці там „на здароўе". Ягоны сціплы дом быў месцам, якое пульсавала клопатам аб прыгожай беларускай мове — скарбе, якога існаванне абумоўлівае быт народа пакрыўджанага гісторыяй. Гэты цёплы, прыязны і зможаны хваробамі чалавек стварыў фонд званы па-антычнаму „Віла Сакратас" і за апошнія гадоў дваццаць свайго жыцця арганізаваў міжнародныя сустрэчы беларусістаў, перакладчыкаў і прыхільнікаў беларускай культуры ды публікаваў матэрыялы з канферэнцый у амбітным штогодніку „Год беларускі", падтрымліваючы сваім талентам і запалам Беларускае літаратурнае аб'яднанне „Белавежа", перыядычныя выданні „Ніва" і „Czasopis" ды незалежнае беларускамоўнае Радыё Рацыя. Драматычны высілак Яновіча быў тым больш каштоўным, што ў яго айчыне за мяжой буяе чужая мова вялікага суседа з Усходу і характарыстычная для яго ментальнасць. А ў нас? У нас, на Падляшшы, той і сёй саромеецца „простай" мовы, а вернік праваслаўя адчувае сябе адчужаным. Бо ў нас, на Падляшшы, зачаста і неабдумана ставіцца знак роўнасці паміж словамі католік — паляк, праваслаўны — русін. Мы павінны чытаць Сакрата Яновіча, і, дарэчы, таксама і Ежы Гедройца... А Лявон Тарасэвіч нарадзіўся ў 1957 годзе ў Валілах на ўскраіне Кнышынскай пушчы. Калісь, шмат гадоў таму, мой сябра, ужо памерлы, знаўца новага мастацтва Рышард Станіслаўскі сказаў: „Ведаеш, там на Беласточчыне нараджаецца новы арыгінальны мастак. Цудоўна намаляваў лес. Проста і з моцай". Больш дзесяці гадоў таму я быў у Валілах. Падворак поўны птушак. У старой школе малады чалавек і агромная карціна карычневых паясоў. Можна было ў ёй убачыць вільготныя барозны зааранага поля за куратнікам. Араты рэгулярна паварочваў, ствараючы рытмічныя паўкругі. Я падумаў сабе: якое сапраўднае гэтае мастацтва, вырасла з форм і колераў падляшскага пейзажу, якія рафінаваныя танацыі птушынай афарбоўкі ў сабе змяшчае, як смела крочыць на арэну сучаснага мастацтва! Але, каб суцешыць сябе і прытушыць зайздрасць, абвінаваціў я Лёніка ў чыстым сенсуалізме і слізганні, на ўзор польскіх постімпрэсіяністаў і каларыстаў, па мілавіднай паверхні рэальнасці. Папракнуў я яго таксама ў недахопе метафар і метафізікі. Але цяпер я штораз менш упэўнены ў сваёй рацыі... Лявон запраектаваў сімвал Падляшскага ваяводства, стварыў новыя паэтычныя прасторы, выкладае жывапіс у варшаўскай Акадэміі мастацтваў, горача служыць справе народа, якога сынам сябе адчувае, а які блізкі і майму сэрцу".

Пра цёмны бок нашага рэгіёна згадаў пісьменнік Ігнат Карповіч:

— Найлягчэй гаварыць аб светлым баку сілы, але мы ведаем, што адбываецца не толькі ў нашым ваяводстве. Здаецца, што ўрок, які мы вынеслі з Другой сусветнай вайны, на жаль, забываецца. Мы адчуваем сябе больш бяспечна, чым калі-небудзь раней, і вы павінны пільнаваць таго, каб гэтыя рэчы не вярнуліся. Гэта не так, што ўсе гідры, дэманы нянавісці незваротна пабітыя. Дык можам хваліцца багаццем, якое ў нас ёсць, але і змагацца з гэтым злом, што ў нас таксама тоіцца.

— Бо і так гэта ёсць, што сёння вельмі часта мерай патрыятызму з'яўляецца варожасць да суседа, — уставіў прафесар Струміла.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Майскія зёлкі

Прыйшоў май і ўсё навокал закрасавала, зацвіло. Май — месяц кветак. Палі і лугі ператварыліся ў стракатыя, каляровыя дываны. Усюды кветкі — і ў зялёнай, яркай траве, і на кустах. Паветра напоена пахам розных зёлак.

Вясной добрая пара збіраць і сушыць лекавыя зёлкі. Можна зарабіць сякі-такі грош. Калі збіраць, дык важна быць упэўненым, што гэта сапраўды тая, а не іншая расліна. Збіраем або кветкі, або лісце, або карэнне. Не вырываем зёлак у адным месцы. Частку пакідаем, каб раслі гадамі. Зёлкі збіраем у сухія дні ды калі ўжо абсохне раса. Неабходна мець крыху ведаў і пра спосабы іх сушэння.

Ад 23 красавіка гэтага года ў пункце скупкі зёлак гайнаўскай суполкі «Руно» ў Плянце каля Нараўкі ўпершыню пачалі прымаць сырое зелле ясноткі (глухой крапівы), крапівы, адуванчыка і марэны, лісце адуванчыка, цвет стакроткі ды мядзведжы часнок. За кілаграм сырога цвету стакроткі плацяць 6 злотых, зелля марэны — 2,50 зл. і мядзведжага часнаку — 2 злоты ды карэння адуванчыка — 1,50 злота.

Зараз купляюць перш за ўсё сушанае лісце бярозы, мядзведжага часнаку, адуванчыка, крапівы, падбелу і брусніцы, цвет падбелу, ясноткі і стакроткі, кару вярбы ды карэнне адуванчыка, крапівы, аеру, пяцёрніка (дуброўкі), конскага шчаўя і малачаю. За сушанае лісце брусніцы і падбелу можна зарабіць 12 злотых ды мядзведжага часнаку 8,50 зл., а сушанае карэнне аеру — 15 злотых. За кілаграм сушанага цвету ясноткі «Руно» плаціць 130 злотых!

У Нараўчанскай гміне гайнаўскае «Руно» ўжо шмат гадоў мае свае пункты скупкі ў чатырох вёсках. Збіральнікі павінны пазнаёміцца з цэннікам і даведацца, якія зёлкі найбольш запатрабаваныя. Пры ўсім гэтым важна для іх тое, якія зёлкі растуць у іх бліжэйшай ад дому ваколіцы, на лугах, у лесе.

## Прыгожы парк і скверыкі

Прыйшла вясна і многа гараджан адпачывае ды прагульваецца ў гарадскім парку ў Гайнаўцы. Дзеці маюць свой куточак для гульняў. У парку растуць бярозы, дубы, ліпы, ясені, клёны, вербы, туі. На вербах ужо прыгожыя маладзенькія жаўтавата-зялёныя лісточкі. На некаторых дубах замацаваныя домікі для шпакоў. Белым цветам абліты дрэўцы мірабелі і яны прыемна пахнуць. Цвітуць ярка-жоўтым цветам яшчэ бязлістыя кустарнікі фарзіцыі (назва ад прозвішча батаніка). У парк прыляцелі птушкі і між дрэў раздаецца птушыны гоман. Зараз, ранняй вясной, адразу зрабілася тут утульна.

Над паркавымі алейкамі вісяць ліхтары паркавага электраасвятлення з белымі пукатымі абажурамі. Тут шмат дарожак і побач іх стаяць новыя цёмнабронзавыя лавачкі ды чырвоныя і зялёныя сметніцы. Ёсць нават прыбіральні. Парк дагледжаны, чысты. І гэта цешыць.

У Гайнаўцы ёсць два скверыкі: перад будынкам гарадской установы пры вуліцы Аляксея Зіна і побач гарадской публічнай бібліятэкі каля скрыжавання вуліц 3 Мая і Стэфана Баторыя. Тут і помнік салдату- герою Баляславу Бервячонку. На клумбах у скверыках пасадзілі ўжо першыя веснавыя кветкі. У сонечныя цёплыя дні на паркавых лавачках ахвотна праседжваюць пенсіянеры ды маладыя парачкі. Вясна...

**(яц)**



# Каралева дэтэктываў у Гайнаўцы

**Так назвалі Кацярыну Бонду, вядомую аўтарку кніг з дэтэктыўным зместам, мабыць таму што яна — адзіная жанчына сярод аўтараў дэтэктываў у нашай краіне.**

Удзельнікі спаткання ў Гарадской публічнай бібліятэцы ў Гайнаўцы (Кацярына Бонда з кветкамі, першая злева — дырэктарка бібліятэкі Ала Грыц)

Неўзабаве адбудзецца з'езд выпускнікоў Гайнаўскага белліцэя. Кацярына Бонда — адна з найбольш распазнавальных выпускніц гэтай школы якраз з-за сваёй творчасці. Дэтэктывы піша яна прыблізна гадоў дзесяць і карыстаюцца яны папулярнасцю ў чытачоў. Раней Кацярына Бонда працавала журналістам, між іншым, у часопісах «Express Wieczorny», «Super Express», «Newsweek», «Wprost» і на Польскім тэлебачанні. На другую сустрэчу з гайнаўнамі, наладжаную 25 красавіка ў Публічнай гарадской бібліятэцы ў Гайнаўцы, аўтарка прыехала з ахвотай, бо тут яе бацькаўшчына, тут жывуць сямейнікі, сябры і настаўнікі белліцэя, якім прасіла перадаць прывітанні. На першае спатканне прыйшла яе выхавацелька і настаўніца польскай мовы Альжбета Міклашэвіч, якая разам з настаўнікам беларускай мовы Васілём Сакоўскім прывівалі Кацярыне Бондзе любоў да чытання літаратуры і пісання творчых прац. Закончыла яна факультэт журналістыкі і палітычных навук Варшаўскага ўніверсітэта. Падчас гайнаўскага спаткання аўтарка заявіла, што менавіта адукацыя дала ёй магчымасць выпрацаваць салідны варштат працы. Яе вядомыя дэтэктывы гэта «Справа Ніны Франк», «Польскія жанчыны-забойцы», «Недасканалае злачынства», «Толькі мёртвыя не ілгуць», «Дзевяты раўнд» і «Фларыстка».

— Быў у мяне раман з тэлебачаннем, але там панавала атмасфера пастаяннай барацьбы за поспех і я дайшла да вываду, што гэта не для мяне. Работа журналісткі ў часопісах таксама патрабавала вельмі вялікай ангажаванасці і інтэнсіўнай працы. Я прыдумала свой індывідуальны праект, заснавала школу творчага пісання, якая і цяпер дзейнічае. Ведамі і ўмеласцямі здабытымі падчас навукі і журналісцкай працы карыстаюся цяпер, бо каб дэтэктыў атрымаў прызнанне чытачоў, мусіць быць напісаны на высокім узроўні. Зараз я жыву з ганарараў ад прададзеных кніжак і агулам яны немалыя, але спачатку былі вялікія фінансавыя цяжкасці. Першапачаткова я сама шукала выдавецтвы, якія хацелі б выдаць мае кніжкі. Заробак тады быў мізэрны. Цяпер выдавецтвы самі просяць пакарыстацца іх паслугамі. Стараюся не мяняць аднаго выдаўца на другога, бо калі трымаюся аднаго выдавецтва даўжэйшы час, то яно займаецца прамоцыяй маіх кніжак, бо гэта ў інтарэсах выдавецтва, — сказала падчас спаткання Кацярына Бонда, якая цяпер займаецца выхаваннем дачкі і піша дэтэктывы. — Кніжак не пішу я толькі для грошай. Пішу перш за ўсё таму, што люблю пісаць. У мяне няма асаблівых музычных здольнасцей, але з шасці гадоў аж да заканчэння ліцэя я вучылася іграць на піяніна, а прытым пасля іграла па чатыры гадзіны ўдзень. Былі таксама і музычныя выступленні. Аднак я не стала піяністкай, толькі спецыялістам па дэтэктывах.

Спатканне ў гарадской бібліятэцы суправаджала выстава жывапісу Яцка Некраша ды здымкаў Уладзіміра Мусько і Віктара Кабаца «Паўстанчыя сцяжынкі ў Белавежскай пушчы», прымеркаваная да гадавіны Студзеньскага паўстання 1863-1864 гг. Вяла сустрэчу новая дырэктар бібліятэкі Ала Грыц, якая працуе на гэтай пасадзе з 1 красавіка. Прысутнічала ў сустрэчы шматгадовая дырэктар бібліятэкі Галіна Вайсковіч, якая нядаўна адышла на пенсію. Ала Грыц расказала пра творчы і жыццёвы шлях аўтаркі.

Хаця я, працуючы ў дзевяностых гадах у Гайнаўскім белліцэі настаўнікам беларускай мовы, не вучыў у класе Кацярыны Бонды, то здаралася, што замяшчаў падчас хваробы Васіля Сакоўскага. Запамяталася мне, што будучая аўтарка дэтэктываў вылучалася на фоне свайго класа моцным характарам, што можна было таксама заўважыць падчас сустрэчы ў бібліятэцы. Як пазней аказалася, у выпадку Кацярыны Бонды спрацавалі вялікая цярплівасць і адданасць запланаваным дзеянням, якіх рэзультатам стала прызнанне чытачоў.

Кацярына Бонда расказала гайнаўнянам пра свой варштат працы. Матэрыялы для кніжак збірае яна на падставе матэрыялаў судовых працэсаў і па іншых крыніцах. Робіць гэта вельмі падрабязна. Зараз накапіла яна матэрыял для многіх кніжак. Аднак, паводле аўтаркі, самыя важныя — добрая ідэя і добры сюжэт, які трэба запоўніць добрымі вопісамі і жывым словам.

— Спачатку я планую сюжэт кніжкі і раблю дакладны план яе напісання. Гэта патрабуе ад мяне вялікай ангажаванасці і даволі доўгага часу, бо часта пішу карыстаючыся матэрыяламі канкрэтных судовых працэсаў, якія аналізую. Нават езджу на месцы злачынстваў і там аналізую, у які бок хутчэй за ўсё ўцякаў бы мой злачынца і колькі патрабаваў бы часу на гэта. Калі ў мяне ёсць ужо падрабязны план, з дэталямі, я пачынаю пісаць кніжку, што патрабуе ўжо творчай ангажаванасці, напісання добрых дыялогаў і развудоўвання сюжэта ў такі спосаб, каб трымаў чытача ў напружанасці да канца. Стараюся так пісаць дэтэктывы, каб чытачы мелі магчымасць самі весці расследаванне і ў канцы кніжкі пераканацца, ці ішлі яны добрай дарогай. Калі заканчу пісаць кніжку, то раблю сабе канікулы і, уволніўшы дачку ад школьных абавязкаў, еду ў такое месца на свеце, у якім я яшчэ не была, каб там адпачыць ад напісанага, каб яно не вярталася да мяне ў думках, — сказала Кацярына Бонда і праінфармавала, што ў маі адбудзецца прэм'ера навейшай яе кніжкі «Паглынальнік», першай з серыі дэтэктываў, якіх галоўным героем будзе Саша Залуская. — Майго бацьку называлі Сашам, хаця яго афіцыйнае імя Аляксандр, а дзявочае прозвішча маёй мамы — Залуская і такім чынам паўстала імя і прозвішча майго героя — Саша Залуская. У серыі «Чатыры стыхіі Сашы Залускай» планую выдаць чатыры кніжкі: загаловак другой — «Зямля», трэцяй — «Агонь», а чацвёртай — «Вада». Усе гэтыя кніжкі можна будзе чытаць незалежна ад сябе, хаця канчатковая развязка дзеянняў адбудзецца ў канцы чацвёртай кніжкі.

Аўтарка паведаміла, што ў сюжэт кніжкі «Паглынальнік» уключаны канкрэтныя месцы Гайнаўкі. Тут жа спадарыня Кацярына ўзрастала і выхоўвалася, сюды вяртаецца ўспамінамі і хоча, каб пра Гайнаўку даведаліся яе чытачы ў Польшчы і замежжы, бо падпісала ўжо дамовы на пераклады кніг на англійскую і нямецкую мовы. Дзеянні яе дэтэктываў адбываюцца таксама за мяжой Польшчы, куды ездзіць, каб удакладніць дэталі для сваіх кніжак.

— Я пішу дэтэктывы псіхалагічнага характару, падчас чытання якіх чытач гуляе інтэлектуальна. Стараюся так пісаць кніжкі, каб чытачы турбаваліся толькі дома. У канцы кніжкі дрэнныя персанажы падвяргаюцца пакаранню, каб людзі не баяліся ў сваім жыцці нязлоўленых забойцаў, — заявіла Кацярына Бонда, якая ў мінулым сама любіла чытаць дэтэктывы, але зараз галоўным чынам чытае гістарычныя аповесці і класіку сусветнай літаратуры.

Адна з удзельніц сустрэчы папрасіла, каб забойца не быў жыхарам Гайнаўкі, але нейкай прыезджай асобай, бо калі гайнаўяне будуць толькі ахвярамі, гэта не пакажа горада з дрэннага боку.

— Я вінаватая мясцовым, каб тут засяродзіліся дзеянні і, канешне, мае героі не будуць супадаць з мясцовымі, каб не зрабіць людзям крыўды. Вашы прапановы вазьму пад увагу. Мае кніжкі ўзбагачваюць чытачоў інфармацыямі пра месцы, якія я апісваю, — заявіла Кацярына Бонда.

Аўтарка адзначыла, што можна расслаўляць Гайнаўку пры дапамозе дэтэктываў. Людзям, якія не чыталі яе кніжак, запрапанавала прачытаць «Фларыстку» і новую кніжку, якой прэм'ера адбудзецца ў маі.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# На супрасльскай званіцы

**Царкоўны звон** — анёльскі голас, стук нашага сэрца, паратунак для палаючай пякельным агнём душы. Гаворыць, што на Пасху падняцца на званіцу можа абсалютна кожны. Таму, мабыць, хапала ахвотных, каб паспрабаваць сваіх сіл у пасхальнай ігры на званах Супрасльскага манастыра.

Традыцыйныя і аўтарскія званарскія кампазіцыі выканалі ўдзельнікі VI Міжнароднага фестывалю царкоўнага звanення „Абвяшчае, усхвальвае, склікае" ў Супраслі. У гэтым годзе ўдзельнікаў конкурсу з Польшчы, Беларусі і Расіі ацэньвала журы ў складзе архімандрыт Супрасльскай лаўры Андрэй Баркоўскі, дырэктар Падляшскага музея Анджэй Ляхоўскі, прафесар Віялета Бялецкая і музыколаг Марцін Абійскі.

Беласточчыну прадстаўлялі маладыя званары з прыходаў Гайнаўкі, Саколкі, Супраслі, Гарадка, Бельска-Падляшскага і Беластока. Падляшскім удзельнікам конкурсу яшчэ доўга прыйдзецца асабіста развіваць званарскую душу, каб потым пераліць яе ў сапраўды якасную практыку. Фестывальнае мерапрыемства стварае ім самыя лепшыя магчымасці пакарыстацца вопытам старэйшых спецыялістаў з-за ўсходняй мяжы. Але чаму, не лічыўшы аднаго выключэння, шаноўнае журы ўзнагародзіла менавіта айчынных маладых званароў? Спадар Абійскі, уручаючы ўзнагароды, ад імені ўсёй камісіі растлумачыў, што вельмі строга ацэньваўся рытм. Менавіта на гэта найбольш увагі звяртала фестывальнае журы. Але ж не трэба быць спецыялістам, каб разумець, што званар — не дыджэй, а званіца — не дыскатэка. Такога тыпу рашэнне гэта своеасаблівае ўпэўненне маладых у іх завершанасці і дасканаласці. Ім папросту ўжо няма патрэбы далей развівацца. Яны ж найлепшыя на свеце. А з якімі ўражаннямі ад фестывалю вернуцца тады дахаты спелыя званары храмаў Віцебшчыны ці Міншчыны — богабаязныя жанчынкі ў доўгіх, паласатых саянах і хустках ды з пасхальнай радасцю на чыстых тварах?

Яшчэ да падвядзення вынікаў конкурсу я паспела пагутарыць з некаторымі прадстаўнікамі загранічнага званарства. Рэч ішла пра асноўнае — пра сутнасць званарства і іх шлях да яго.

У званара павінна быць чыстая душа.Так аднойчы сказаў Алене Шацько стары беларускі званар. Званары, якіх сустрэла яна на сваёй жыццёвай дарозе, былі святымі людзьмі. Гэта выяўлялася ў іх богабаязнасці і адносінах да людзей. Многія, бывала, ніколі не выязджалі за мяжу сваёй вёскі. Алена Шацько, неўзнагароджаная ўдзельніца сёлетняга фестывалю, штодзень займаецца даследаваннем званарскіх традыцый Заходняй Беларусі. Плёнам яе дзесяцігадовай навуковай працы з'яўляецца, між іншым, кніжка „Колокола и колокольные звоны православных храмов западных регионов Беларуси: история и современность". На вялікі жаль, — паводле яе, — у Польшчы не існуе ніводная школа званарства. Непрафесіянальныя адносіны да інструмента пагражаюць разбіццём звана, — тлумачыць мая субяседніца. Пажылому званару надта балюча, калі на званіцу падымаецца юнак з нейкімі новымі кампазіцыямі. Тут усё павінна быць па-божаму. Вучыцца толькі тэхнікі звана гэта таксама суха і нецікава. Маладым званарам спадарыня Алена раіць перш за ўсё пазнаёміцца са званарскай традыцыяй свайго горада ці вёскі.



Марцін Абійскі і Міша Абрамаў знаёмяць з дазванарскай традыцыяй склікання вернікаў у царкву

Нягледзячы на чатырнаццаць гадоў практыкі Алена лічыць сябе маладой у званарскай прафесіі. У званарстве знаходзіць яна радасны спакой для душы і здароўе для цела.

Я раскрыла таксама, што ў час званення адбываецца ў душы пераможцы сёлетняй міжнароднай конкурснай катэгорыі фестывалю Міхаіла Абрамава — студэнта чацвёртага курса Маскоўскай кансерваторыі.

— Гэта своеасаблівы палёт, у час якога канкрэтныя думкі адсутнічаюць. Гэта пачуцці, якіх не выказаць словамі. Часам здаецца, што натхненне зыходзіць з вышыні. Нейкія рэчы адбываюцца незалежна ад чалавека, яны нерастлумачальныя. Царкоўнае званенне абавязвае да шмат чаго, гэта вялікая адказнасць.

Мішы Абрамаву, як музыканту, безупынна хочацца чаму-небудзь новаму навучыцца. Таму, між іншым, папаў ён на званіцу.

— Галоўнае, — кажа ён, — каб не запыняцца ў сваім развіцці. Веру, што калі ты кормішся нечым духоўным, ты павінен гэта аддаваць іншым людзям. Нават калі іграю на піяніна, гэта не для апладысментаў, ці проста паказаць, што я лепшы чым другія, а каб слухач нешта новае для сябе раскрыў, зразумеў ці змяніўся.

Міша Абрамаў быў адзіным чужаземцам, якому ўдалося папасці ў спісак узнагароджаных, і парадаваць сваёй незвычайнай ігрой публіку сёлетняга фінальнага канцэрта Супрасльскага міжнароднага фестывалю.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

## У Беластоку будзе многа кветак

У Беластоку ўжо ў пачатку сакавіка гэтага года пасадзілі вясеннія кветкі, між іншым, на скверыках пры вуліцы Сянкевіча і ў парку Плянты. Многа — больш 25 тысяч — кветак пасадзілі ў агародзе палаца Браніцкіх — трохколерныя цюльпаны, шафраны, гіяцынты, першацвет, нарцысы, касачы, стакроткі і незабудкі. Шмат разнаколерных браткаў. Восем тысяч кветак пасадзілі ў спецыяльных прыгожых кветніцах. Паставілі іх, між іншым, паўз вуліц Ліпавай, Пекнай і Браніцкага ды на Універсітэцкім пляцы. Найбольш цюльпанаў і шафранаў расце ў парку Плянты (побач пляцоўкі для дзіцячых гульняў), на скверыку пры вуліцы Мальмеда ды пры вуліцы Каліноўскага і св. Мікалая. Ёсць таксама нешта новае. На скрыжаванні з кругавой развязкай пры Катынскім пляцы цвітуць толькі белыя і чырвоныя цюльпаны — у колерах нацыянальнага сцяга. Пры аднаўленай у мінулым годзе алеі Пілсудскага пасадзілі дваццаць тысяч жоўтых, ружовых і аранжава-чырвоных цюльпанаў. На алеі Закаханых заквітнелі каляровыя кветкавыя дываны, скампанаваныя з разнаколерных браткаў (жоўтых, блакітных, бардо і белых). Пасадзілі тут больш дваццаці тысяч гэтых раслін. Браткі сустрэнем таксама на скверы Арміі Краёвай і пры вуліцы Жабінай. У цэнтры горада, між іншым, на Рынку Касцюшкі, на вуліцах Сянкевіча, Суражскай, Кілінскага, Легіяновай і Пекнай традыцыйна ўжо красуюцца белыя і ружовыя петуніі на ліхтарах вулічнага асвятлення. Усе вясеннія кветкі пасаджаны да 20 красавіка. Летнія будуць садзіць у першай палове чэрвеня. Летам у горадзе зацвіце яшчэ больш самых разнаколерных (ажно да галавакружэння) кветак. Сёлета Беласток мае быць зялёны (восенню пасадзілі на вуліцах 1080 маладзенькіх дэкаратыўных дрэўцаў: японскай тавулы, акацыёвай рабіны, іргі, барбарысу, чмяліны і турэцкай ляшчыны) і поўны кветак.

**(яц)**

# Дзесяць гадоў працоўнай эміграцыі

1 траўня Польшча ўрачыста адзначыла важную гадавіну. Роўна дзесяць гадоў таму, разам з дзевяццю іншымі краінамі яна далучылася да Еўрасаюза. Паводле найноўшага апытання ажно 89% палякаў падтрымлівае сяброўства ў Еўрасаюзе, а толькі 7% палякаў не падзяляе гэтай думкі.

Прыхільнікаў далучэння да Еўрасаюза ў Польшчы заўсёды было болей, чым праціўнікаў. Аднак да павелічэння колькасці задаволеных праеўрапейскім выбарам Польшчы выдатна спрычыніліся падзеі ва Украіне. Палякі ўсвядомілі, што ўступаючы спярша ў НАТА і затым у Еўрасаюз, краіна зрабіла добры выбар, што яна апынулася ў лепшай кампаніі, што яна больш абароненая, больш спакойная за сваю будучыню. Цягам апошніх дзён польскія медыі літаральна бамбардзіруюць чытачоў і слухачоў лічбамі, якія адлюстроўваюць той неверагодны цывілізацыйны скачок, які краіна зрабіла за мінулыя дзесяць гадоў. У адным з тэлеролікаў гэтае дзесяцігоддзе названае «Дзесяццю светлавымі гадамі». Адмыслоўцы палічылі, што за гэты перыяд краіна атрымала з Брусселя амаль 340 мільярдаў еўра. Паводле статыстыкі, дзякуючы гэтым вялізным грашам, палякі сталі багацейшымі, яны даўжэй жывуць і ездзяць па лепшых дарогах. «Калі б не Еўрасаюз, Польшча была б на такім этапе развіцця як 5 гадоў таму» — заявіў нядаўна прэм'ер-міністр Дональд Туск. Па словах міністра замежных спраў Радаслава Сікорскага, дзесяць гадоў таму дамінавалі два асноўныя погляды: першы такі, што ў Еўрасаюзе палякі не знойдуць для сябе месца, што замежнікі выкупяць зямлю і ўсю краіну, што Еўропа залье Польшчу сваімі таварамі. Іншыя верылі ў поспех, але такі, што за кошт крыві і поту старэйшага пакалення лепей будуць жыць іхныя дзеці. «Не спраўдзіўся ніводзін з гэтых сцэнарыяў» — заявіў Сікорскі. Сапраўды, немцы не выкупілі польскай зямлі, Польшча не перастала быць польскай і каталіцкай, а тавары паплылі ў адваротным напрамку: гэта Польшча завальвае сваімі вырабамі еўрапейскія рынкі.

Не падлягае сумневу, што за апошнія дзесяць гадоў краіна заўважна змянілася ў лепшы бок. На далучэнні да Еўрасаюза Польшча ў цэлым скарыстала. Гэта бачна найперш па той інфраструктуры, па дарогах, дамах, аўтамабілях, крамах, выглядзе гарадоў і вёсак. Вельмі станоўча, як сімвал паўнацэннасці, палякі ўспрынялі далучэнне краіны ў снежні 2007 года да «шэнгенскай зоны». Высокае беспрацоўе ў сябе дома многім кампенсавала магчымасць свабоднага, бязвізавага перамяшчэння і легальнай працы за мяжою.

А што думаюць пра гэтыя дзесяць гадоў у Еўрасаюзе жыхары Падляшша? Шчыра кажучы, я не праводзіў ніякіх аналізаў, не распытваў людзей, не задаваў ім адмыслова гэтага пытання. Ацэньваю паводле таго, што бачу і ведаю з іншых крыніц. З пункту погляду радавога грамадзяніна прыгарада Беластока бачу, што мае рацыю дэпутат Сейма ад Падляшша Яраслаў Зялінскі. Ён стрыманы ў сваім захапленні плюсамі сяброўства ў Еўрасаюзе. Па яго словах, еўрапейскія грошы пайшлі ў асноўным на інвестыцыі ў камяні, а не ў чалавека. Да такіх аб'ектаў як Опера ў Беластоку прыйдзецца бясконца даплачваць. Ёсць прыгожыя будынкі і аб'екты, але няма працы. З гэтых прыгожых гарадоў людзі з'язджаюць у яе пошуках за мяжу. Ад сябе дадам, што ў Беластоку закрытыя ўсе вялікія прадпрыемствы, якія памятаю з маладых гадоў.

Для жыхароў Падляшша бадай самае крыўднае тое, што еўрапейскія грошы не зменшылі разрыву паміж багацейшымі заходнімі і бяднейшымі ўсходнімі раёнамі краіны. Аказваецца, што ў 2001 годзе валавы ўнутраны прадукт на Падляшшы быў на 23% ніжэйшы за сярэднестатыстычны ва ўсёй краіне. Цяпер ён ніжэйшы на 29%. Значыць, немалы паток грошай з Брусселя не дапамог Падляшшу і ўсёй так званай «усходняй сцяне» падцягнуцца да ўзроўню Варшавы, Вроцлава, Гданьска. Дакладна гэтак як у алфавіце «Польшча Б» займае месца за «Польшчай А» і разрыў паміж імі павялічваецца.

Калі мне здараецца весці «Падляшскі канцэрт пажаданняў», дык з калегам атрымліваем шмат тэлефонаў ад слухачоў з заходніх краін. Гэта нашы, беластоцкія людзі, якія там жывуць і працуюць. І добра разумею чаму, бо нават самым чыстым паветрам Белавежскай пушчы немагчыма жыць. Вось калі ўсе яны вернуцца назад, я змагу сказаць, што Еўропа нам па-сапраўднаму дапамагла.

**Кастусь БАНДАРУК**
**(Радыё РАЦЫЯ)**

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

## Магічная ноч

Неўзабаве, з пятніцы на суботу, 16 мая, чарговы ўжо раз пройдзе агульнапольская акцыя „Ноч у музеі". У гэтую ноч нам дазваляюць пагуляць даўжэй, чым звычайна. Вядома, на гэтыя сустрэчы трэба ісці з бацькамі. Калі захочацца спаць, яны арганізуюць нам начлег.

Вядома, неабавязкова зацягваць у часе культурна-адукацыйныя вандроўкі. Дзверы музеяў адкрываюць ужо звечара, і калі спрые надвор'е — гэта добрая нагода для сямейнага шпацыру. Каб прыцягнуць наведвальнікаў, многія музеі і галерэі арганізуюць канцэрты, тэатральныя пастаноўкі, паказы магіі або супольныя танцы.

Цікава, што музычна-тэатральная абалонка вабіць заглянуць у музей. У самую ноч з-за натоўпаў наведвальнікаў мы не заўсёды зможам дакладна паглядзець экспазіцыі. Аднак у нас можа нарадзіцца жаданне наведаць музей разам са сваім класам або школай. Яшчэ файней пайсці індывідуальна, з сябрамі. Гэта не толькі жывы ўрок гісторыі, але і ўспамін майскай, магічнай „ночы ў музеі".

ЗОРКА



Дзяўчаткі з бельскай „Тройкі"

## Вершы Віктара Шведа

### Як завем дзетак?

Цяпер крыку поўна хата,
Нарадзіліся блізняты.
Запыталася суседка:
— Як завеце сваё дзеткі?

Надта змучаная мама
Адказала бабе прама:
— А даведацца ты хочаш
Як завем удзень, ці ўночы?

### Слон і малпа

З малпаю сустрэўся слон,
Хвастацца прабуе ён:
— Тое дрэва ў лесу ценю
Магу вырваць я з карэннем.

— Сапраўды ты нейкі волат,
Можаш грозным быць наўкола.
Ты не можаш нат у гневе,
Ўвайсці, як я, на дрэва.

# Напачатку былі скарбы і лабірынты

Апошнім часам сярод зорчыных узнагарод мы прапануем адукацыйную аўдыёкнігу пад знаёмым загалоўкам „Адкуль наш род". Папраўдзе гэта каларытная нізка апавяданняў з гісторыі Беларусі. Сярод герояў кнігі — князі Усяслаў Чарадзей і Вітаўт Вялікі, асветнікі Еўфрасінія Полацкая і Кірыла Тураўскі, першадрукар Францішак Скарына і канцлер Леў Сапега, ваяводы Канстанцін Астрожскі і Ян Караль Хадкевіч, правадыры паўстанцаў Тадэвуш Касцюшка і Кастусь Каліноўскі... Аўдыёкніга мае багатае гукавое афармленне і малюнкі, дзякуючы якім наш слухач можа „прысутнічаць" пры гістарычных падзеях. Кнігу чытае сам аўтар Уладзімір Арлоў, якога ўсе ведаем са школьных падручнікаў.




Уладзімір Арлоў — аўтар трыццаці кніг, большасць якіх прысвечана падзеям і героям беларускай гісторыі. Яго творы перакладаюць на многія мовы свету. Нарадзіўся ён, як і яго героі — Еўфрасінія Полацкая ды Усяслаў Чарадзей, у старажытнай сталіцы Беларусі — Полацку. У дзяцінстве шукаў ён даўнія скарбы, наведваў славутыя полацкія лабірынты, збіраў памяткі старажытнасці. Пасля паступіў на гістарычны факультэт, каб са знаннем справы напісаць свае кнігі, якія любяць усе беларусы.

ЗОРКА



У беластоцкай праваслаўнай школе

Ніна Галіноўская

## Майскі жук

Пад бярозай ветрык змоўк,
Ды трапечацца лісток,
Ні на момант не сціхае.
Майскі жук яго гайдае:
— Што ты робіш тут, жучок?
— Ах, сусед, дзівак ты гэткі!
Выразаю я сурвэткі.
— Дзе ж абрэзачкі, жучок?
— Не смяціць жа, павучок,
Я абрэзачкі глытаю
І вадою запіваю.

wikipedia.org



Пашаптаў ледзь-ледзь лісток:
— Ветрык, родны мой браток,
Скінь аброжу на траву,
Я пад сонцам ажыву.


Вучні з Міхалова

# Родныя вобразы і пачуцці!

Здаецца, няма ў свеце такіх як мы — беларусы! Ідзе пра любоў да вершаў. Усе мы любім дэкламаваць вершыкі паэтаў. І любім самі сказаць нешта складна, цікава і смешна. Па натуры мы не пераносім нуды і схематычнага думання. Кожны з нас у жыцці напісаў хоць адзін верш ці апавяданне. І гэта для нас не школьная задача, прыгоншчына, а добрая забава, часам адрэагаванне стрэсу...

Цікава, што любоў да вершаў праяўляюць вучні, якія жывуць блізка лесу і вады. Мы маем на ўвазе вучняў з Міхалова і Нараўкі. Ніхто не зраўняецца з імі ў вершаскладанні. Прырода для іх жывая, поўная неспадзяванак, сакрэтаў. Яны адчуваюць яе сілу, прыгожасць, небяспеку, адчуваюць як напаўняе сілай, вяртае здароўе і надзею...

Пісаць пачынаем... з самастойнага рашэння загадак. Пасля самі прыдумваем загадкі сябрам. Ад гэтага нараджаецца патрэба расказаць пра любімых асоб, звяроў, дзедаву кабылку „Каштанку” або пра дзень нараджэння...

Нашы спробы гэта найперш гульня са словам, вобразам і пачуццямі. Пішам, чытаем, дэкламуем і адчуваем, што наша жыццё больш насычанае, каляровае, цікавае.

І адчуваем прыгожасць роднай мовы, якая сама па сабе нашэптвае нам вершы.

Не верыце? Паспрабуйце самі!

**ЗОРКА**

*Міхал ТРУСЕВІЧ, Міхалова*

## Вожык

*Восенню на падворак*
*Выбягае чорны калючы шарык.*
*Такое смешнае зверанятка,*
*Малы спадар вожык.*
*Кароткія ножкі, доўгі лычык,*
*Вострыя калючкі спіну хаваюць.*
*Нюхае носікам:*
*штосьці смачнае,*
*Каб напоўніць жывоцік.*
*Калі прыйдуць зімовыя дні,*
*Закапаны ў лістах будзе спаць.*

*Эвеліна ШЭПКОЎСКАЯ, Тыльвіца, школа ў Міхалове*

## Дзедаў сабака

*Белы сабака ў чорныя латы*
*Бароніць майго дзеда хаты,*
*Бароніць гусей і качак.*
*Дзед яму наладзіў буду,*

*Каб ад холаду хаваўся.*
*У будцы з саломы ложак*
*І выгадна там ляжыць*
*мой аднагодак.*

*Дамініка КАЗБЯРУК, Кухмы-Петрукі, школа ў Міхалове*

## Заапарк

*Я пайшла раз з бацькамі ў заапарк,*
*Бо ў заапарку весела.*
*Бачыла малпаў, бачыла кракадзіла,*
*Але толькі хвіліну.*

*Эмілія КАЗЛОЎСКАЯ, Геранімова, ПШ у Міхалове*

## ...

*Усмешка на твары,*
*Сонца ў небе,*
*Каханне ў сэрцы.*
*Гэта ўсё – для Цябе.*



*Оля КАНДРАТОВІЧ, Міхалова*

## Сям'я

*Сям'я разам трымаецца,*
*Сям'я любіцца*
*і не сварыцца.*
*Сям'я ездзіць*
*у падарожжа.*
*Сям'я заўсёды,*
*заўсёды кахаецца.*

## Увага, конкурс!!! (№ 19-14)

### Загадкі з роднай хаткі

**Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 18 мая, найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**1.**

**Пад зямлёй будуе дом**
**І вядзе тунэлі.**
**Невідушчым маўчуном**
**Ён жыве век цэлы.**
**(к...)**

**2.**

**На ўсіх сцяблінках тонкіх**
**вісяць званочкі-гронкі,**
**духмяныя, серабрыстыя,**
**нібы расінкі, чыстыя.**
**(л.....)**

**Адказ на загадкі № 16: дзяцел, зязюля.**

**Узнагароды выйгралі Зузанна Мішчук з Арэшкава, Караліна Шчасновіч з Бабікаў, Мальвіна Маркевіч з Бельска-Падляшскага, Давід Івановіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку. Віншуем!**

## № 19 Польска-беларуская крыжаванка

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 15:**

Каскад, згода, крот, гараскоп, раманс, на, гадавік, ігра, кропка. Мозг, гук, гора, дама, красавік, кніга, коска, кроп, рэ, датчанін.

**Узнагароды, CD з беларускай народнай музыкай, выйгралі Мальвіна Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Кася Амільянчык** з Шудзялава, **Бэата Цілюолька, Міхал Панківіцкі, Караліна Шчасновіч** з Бабікаў, **Інэз Дмітрук** з Орлі, **Оля Пугацэвіч** з ПШ № 4 у Беластоку. Віншуем!



# Манаграфія пра даследаванне беларускай перыёдыкі ў 1918-1939 гадах

Скажу шчыра, я быў вельмі ўзрадаваны, калі даведаўся, што ў Седльцах выйшла з друку кніга выдатнага беларуска-польскага даследчыка Юрыя Трачука на польскай мове „Czasopiśmiennictwo białoruskie w II Rzeczypospoilitej (1918-1939)” („Перыядычныя беларускія выданні ў II Рэчы Паспалітай (1918-1939)”). Адразу падумалася, што выдатную манаграфію аўтара неабходна тэрмінова перакладаць на беларускую мову і выдаваць у Беларусі.



Юры Трачук

Кніга складаецца з некалькіх грунтоўных раздзелаў. Гэта раздзелы, прысвечаныя гісторыі друкавання і прэсы ў Беларусі, перыядычным выданням Заходняй Беларусі (1918-1939), беларускім перыядычным выданням у 1918-1939 гадах, беларускім часопісам 1918-1939 гадоў, якія выдаваліся ў Заходняй Беларусі і на эміграцыі і г.д.

Толькі прачытаўшы змест выдання бачыш, які вялікі архіўны матэрыял перагледзеў, перакапаў, сабраў і апрацаваў аўтар. І працаваў ён шмат гадоў. Таму разважаць пра грунтоўную манаграфію, як першую спробу даследавання і аналізу беларускіх выданняў 1918-1939 гадоў, я вырашыў разам з аўтарам кнігі. Дарэчы, у манаграфіі даследаваны не толькі выданні на беларускай мове, але і выданні на рускай, польскай, літоўскай і яўрэйскай (ідыш) мовах пра Беларусь і тыя, якія тады выдаваліся на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Чуў я шмат разоў, што ў Юрыя Трачука было з гэтай манаграфіяй вельмі шмат розных прыгод, праўда, не на карысць аўтара. Таму, трымаючы ў руках выданне, я запытаў у яго: як манаграфія пісалася? І вось што адказаў сам аўтар.

— З манаграфіяй маёй і, сапраўды, было вельмі шмат прыгод. А дакладней з маёй дысертацыяй, на аснове якой яна і ўзнікла. І гэта ўсё адмоўна паўплывала на маю далейшую навуковую кар'еру. Кніжку я пачаў пісаць яшчэ ў 1987 годзе ў Варшаве, а закончыў яе пісаць у 1988 годзе ў Маскве. Матэрыялы да яе я збіраў у 1985-1988 гадах. Якраз пад канец 1985 года ўзнікла канцэпцыя яе напісання. Тэму падказаў пакойны ўжо прафесар Васіль Белаказовіч (1932-2010), у якога я тады працаваў у Сектары ўсходнеславянскіх літаратур Інстытута славяназнаўства (цяпер славістыкі) Польскай акадэміі навук у Варшаве. Праца была карпатлівай. Амаль кожны дзень з ранку да позняга вечара я сядзеў у бібліятэках, спачатку ў польскіх: варшаўскіх, познаньскіх, люблінскіх ды іншых, а затым у беларускіх у Мінску, літоўскіх у Вільні і рускіх у Маскве. Добрыя тады, у час ПНР і СССР, былі навуковыя ўмовы працы, якія пасля вельмі пагоршыліся, і так ужо засталося па сённяшні дзень. Працуючы ў той час у Польскай акадэміі навук, у мяне практычна не было ніякіх праблем выехаць на стажыроўку ў Мінск, Вільню ці Маскву. Вядома, што без гэтых




стажыровак мая дысертацыя пра заходнебеларускі друк, а затым кніжка не атрымалася б. Таму я вельмі ўдзячны ўсім тым асобам і ўстановам, якія мне дапамагалі ў маёй працы, а асабліва тадышняму Інстытуту літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР (цяпер Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі), на чале з пакойным ужо яе былым дырэктарам, акадэмікам Віктарам Каваленкам, які ў той час мне сказаў, што згоны Інстытут заўсёды мяне прыме ды Інстытут мовы і літаратуры Літвы ў Вільні таксама.

— Многія ў той час камуністычныя выданні, ведаю, ляжалі ў спецфондах, як Вы да іх дабіраліся?

— Хоць некаторыя, сапраўды, камуністычныя заходнебеларускія часопісы ляжалі ў той савецкі час у Літве ў спецфондзе, але доступ да іх я меў і былі яны для мяне адкрытыя. У маскоўскіх бібліятэках заходнебеларускай перыёдыкі гэтага часу, што мяне здзівіла, я не знайшоў, хоць я і напаткаў іншыя там цікавыя рэчы. Так што ўвесь перыяд маёй працы ў Польскай акадэміі навук быў некалі для мяне вельмі плённым.

Можна толькі шкадаваць, што я не абараніў маёй працы яшчэ ў Інстытуце сусветнай літаратуры Акадэміі навук СССР (цяпер Расійскай акадэміі навук), у якім у той час (у 1987-1988 гады) адзін год па кантракце працаваў, таму што пазней меў з ёю шмат перыпетый.

— А калі Вы прыступілі да абароны сваёй дысертацыі?

— Да абароны сваёй доктарскай дысертацыі (у Беларусі адпавядае кандыдацкай) я прыступіў толькі ў 1993 годзе. Быў гэта час перамен. І мая праца, паводле пакойнага ўжо і прыхільнага мне прафесара Рышарда Лужнага з Каталіцкага Люблінскага ўніверсітэта і Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве, не прайшла камісію як „бальшавіцкая, камуністычная і накіраваная супроць польскага дзяржаўнага інтарэсу”. Гэтае здарэнне я моцна перажываў і толькі дзякуючы прафесару Міхайлу Лесеву, мне ўдалося яе абараніць у 2001 годзе ва Універсітэце Марыі Кюры-Складоўскай у Любліне, які, дарэчы, я некалі закончыў.

— Атрымліваецца, што Ваша кніга выйшла праз чвэрць стагоддзя?

— Так, кніжку ўдалося мне выдаць толькі пасля чвэрць стагоддзя ад яе напісання. Таму лічу гэта вялікай, нягледзячы на ўсе прыгоды, маёй перамогай. Яе выданне ажыццявіў Прыродна-гуманітарны ўніверсітэт у Седльцах, у якіх нарадзіўся сусветнай славы канструктар касмічных караблёў — акадэмік Уладзімір Чаламей (1914-1984).

— Праглядаючы і перачытваючы Вашу грунтоўную манаграфію, я заўважыў, што ўсё ж не ўсе беларускія газеты і часопісы Вам удалося знайсці ў архівах і бібліятэках. Ды, мне здаецца, усіх адшукаць немагчыма, асабліва аднадзёнак. Тым не менш, Вам удалося адшукаць тых самых газет-аднадзёнак вельмі шмат, разнастайных і цікавых. Ну, напрыклад, аднадзёнка „Рэха” (Вільня, 8 ліпеня 1925 года), якая пісала пра смерць адваката Тадэвуша Урублеўскага, які сябраваў з беларусамі, аб становішчы Праваслаўнай царквы ў Польшчы і г.д. Ці палітычная аднадзёнка „Праўда” (Вільня, 30 мая 1931 года), якую выдаў Фабіян Акінчыц. Ці аднадзёнка „Першы крок” (Варшава, ліпень 1935 года), якая была выдадзена для беларускіх студэнтаў у Варшаве і г.д.

— Сапраўды, на жаль, не ўсе часопісы ды газеты ўдалося мне тады адшукаць. Спісак тых, якія выходзілі і якіх мне не ўдалося знайсці, знаходзіцца ў канцы кніжкі. Думаю, што надалей трэба яшчэ іх шукаць. Можа ў бібліятэках іншых гарадоў...

Юрый Трачук не толькі сабраў унікальныя беларускія выданні (1918-1939), але і апісаў іх, паведаміў, калі яны выдаваліся, хто рэдагаваў іх, аб чым яны пісалі, хто друкаваўся на іх старонках, дзе яны выдаваліся. Атрымалася не толькі ўнікальная манаграфія, а шыкоўны энцыклапедычны даведнік па беларускай прэсе першай паловы XX стагоддзя ў Заходняй Беларусі. Цікавым з'яўляецца і спіс тых выданняў, якіх знайсці не ўдалося, але яны выдаваліся не толькі на тэрыторыі Беларусі, але і ў Літве, Расіі, Украіне, Нямеччыне, Польшчы, Латвіі, Чэхаславакіі, ЗША, Францыі, пра якія аўтар чуў, ведае, але адшукаць яму не ўдалося. А гэта ажно 103 выданні. Напрыклад, у Беларусі выходзілі ў 1924 годзе аднадзёнка „Абух”, у 1925 годзе — аднадзёнка „Беларуская зорка”, у Гародні ў 1924 годзе — аднадзёнка „Гудок”, у Беластоку ў 1933 годзе — аднадзёнка „Засеў”, у Гародні ў 1929 годзе — аднадзёнка „Пралом”, у Вільні ў 1920 годзе — аднадзёнка „Саха” і г.д. Выдаваліся ў 1920-1930-х гадах на Беларусі і такія выданні, як „Зярно” (Беласток), „Краёвая сувязь” (Вільня), „Пякучая маланка” (Вільня), „Наш палетак” (Вільня), „Колас” (Радашковічы), „Васілёк” (Вільня) і іншыя. У замежжы выдаваліся, але адшукаць іх аўтару не ўдалося таксама разнастайныя выданні на беларускай мове: „Беларускае жыццё”, „Праца”, „Гаспадар” (Латвія), „Дзянніца”, „Змаганне”, „Чырвоны сцяг”, Чырвоны шлях” (Расія), „Беларускае слова”, „Беларусы ў Адэсе”, „Жыццё”, „На пераломе” (Украіна), „Барацьба”, „З роднага краю” (Нямеччына), „Рух” (Польшча), „Наш поклiч”, „Светазар” (Літва), „Рэха” (Францыя) і іншыя.

330 выданняў аўтару кнігі ўдалося адшукаць не толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах свету. Вядома, праца была доўгай і клапатлівай, але, як сказаў аўтар, дзякуючы ягонай упартасці, пісалася яна з ранку да вечара адносна лёгка. „Некаторыя прафесары былі здзіўлены, калі вялі гутарку аб маёй цяжкай працы, таму што гук пішучай машынкі ў Доме замежнага вучонага ў Маскве, у якім я тады жыў, па вуліцы акадэміка Капіцы, даходзіў да ніжэйшых паверхаў і яны чулі, як я працаваў. Усё ж я лічыў гэта ў той час нармальным. У нашым Інстытуце ўсе тады цяжка працавалі, але і мелі пасля адпаведных вынікі. Мяне тады гэта не здзіўляла. Я быў яшчэ малады і поўны энергіі”, — сказаў усміхаючыся Юрый Трачук.

Пачатак даследавання ёсць добры, але працу над пошукамі заходнебеларускай перыёдыкі і надалей трэба працягваць. Так лічыць беларускі даследчык і літаратуразнавец з Седльцаў Юрый Трачук. І з ім застаецца толькі пагадзіцца, а таксама падзякаваць за тое добрае і карыснае, што ён ужо зрабіў.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## „Ніва” — ваш найлепшы прыяцель

29 красавіка гэтага года я наведаў дзве пошты ў Беластоку і спытаў, ці ёсць у продажы „Ніва”. На пошце № 39 пры вуліцы Рынак Касцюшкі (насупраць гарадской ратушы) я купіў наш родны часопіс. Затым паехаў аўтобусам гарадской камунікацыі (лінія № 20) на жыллёвы пасёлак Лясная даліна і зайшоў на пошту № 35 па вуліцы св. Андрэя Баболі. Тут „Нівы” не было.

— Раней, дзесьці два месяцы таму, беларускі штотыднёвік быў у нас, — сказала працаўніца пошты. — Тут ніхто яго не купляў, то перасталі нам прысылаць.

Мне было прыкра гэта пачуць. Пасёлак Лясная даліна вялікі і тут жывуць, між іншым, здаўна знаёмыя мне дзве беларускія сям'і. Адна асоба шчыра прызналася мне, што ўжо развучылася чытаць па-беларуску. Сяк-так магла б, але з вялікім намаганнем. Другая, яна мае вышэйшую адукацыю, сказала мне, што не хоча муціць сабе ведання рускай мовы. А яна добры і нават прысяжны перакладчык гэтай мовы.

30 красавіка г.г. зайшоў я на пошту па вуліцы кард. Вышынскага. Былі два экземпляры „Нівы” і я адзін купіў для жыхаркі Новага Ляўкова. Адсюль паехаў я на пошту № 26 на пасёлку Сонечны сток. Тут таксама былі два экземпляры беларускага штотыднёвіка. Я адзін з іх купіў для дачкі Асі, якая працуе лекарам у амбулаторыі па вуліцы Вітоса. Яна „Ніву” чытае ад часу да часу. У той самы дзень наведаў я і галоўную пошту па вуліцы Варшаўскай. Тут у продажы былі яшчэ чатыры экземпляры „Нівы”.

Калі пасля поўдня вяртаўся я дадому ў сваю родную вёску на аўтобусе ПКС, я пазнаёміўся з жанчынай, якая ехала з Беластока ў Міхалова, дзе зараз яна пражывае. Мы размаўляліся і я даведаўся, што яна таксама як і я нарадзілася ў стараляўкоўскай праваслаўнай парафіі. Жыла ў Слабодцы і хадзіла ў школу ў Лешукі. Тады ўсе вясковыя настаўнікі і вучні чыталі „Ніву” і „Зорку”.

Я падараваў ёй экземпляр новага нумара. Яна сказала, што ахвотна пачытае артыкулы і допісы, між іншым, свайго земляка. Мяне яна дагэтуль не ведала. А зараз будзе купляць „Ніву” — так сказала — і сачыць, што я новага напішу. Яе цікавяць весткі з Нараўчанскай гміны. Нядаўна афармляла справы ў Гміннай управе ў Нараўцы.

Пасля поўдня ў пятніцу, 2 мая г.г. патэлефанаваў я ў спажывецкую краму ГСу ў Нараўцы (каля помніка) і даведаўся, што ў продажы было пяць экземпляраў беларускага штотыднёвіка. Ужо ў пятніцу па адным купілі Галіна Бірыцкая з Плянты і Янка Шыманюк з Семяноўкі. Між іншым таму, што ў „Ніве” № 18 надрукавалі верш „Семяноўцы — 380” Галіны Бірыцкай. Яна ў ім напісала і пра семяноўскага спевака Ваню.

**(яц)**

Даведнік „Рэлігія і царква на Беларусі”: „Стараабраднікі, стараверы — прыхільнікі стараабраднiцтва — рэлігійнай плыні, якая ўзнікла ў выніку расколу ў Рускай праваслаўнай царкве і адмовы часткі насельніцтва прызнаць царкоўныя рэформы патрыярха Нікана другой паловы 17 ст. Па рэлігійнай дагматыцы стараверы не адрозніваліся ад рэфармаванай праваслаўнай царквы, аднак фактычна захоўвалі старую абраднасць: васьміканцовы крыж, двухпальцавае хрышчэнне і інш., а таксама стары побыт...”.

# З Усходу



Вуліца ў Габовым Грондзе

Крыху старавераў пражывае каля Аўгустова. Задумалася мне заглянуць у іхні тамашні цэнтр, вёску Габовы Гронд, дзе знаходзіцца іхняя царква. З мясцовасці Белабжэгі, што над Аўгустоўскім каналам, у Габовы Гронд каля пяці кіламетраў. Асфальтоўка пралягае цераз алёсавы лес, да вёскі Бор, дзе скрыжаванне дарог, ад якога каля двухсот метраў да стараверскай царквы. Вёскі Бор і Габовы Гронд выразна не размежаваны і іх насельніцтва складае тамашнюю стараверскую абшчыну. Між асфальтоўкаю і царквою сціпленькая крама, больш-менш такога ж стандарту як і нямногалікія крамы ў нашых вёсках. На акраіне мясцовасці, за царквою, школьны будынак, да якога даўнымдаўно прастылі сляды вучнёўскай прысутнасці. Але, у адрозненне ад шмат якіх нашых школ, не відаць там адзнак вандалізму. Кідаю вокам на могілкі — магілкі там мо больш сціплыя, чым у нас — не відаць там прымет намагільнікавай новабагацейскай гонкі, эпітафіі пісаныя кірыліцай...

Заходжу на царкоўны пляц каб сфатаграфаваць там помнік ахвярам Другой сусветнай вайны і заўважаю некалькі таблічак на польскай і рускай мовах, забараняючых выконваць здымкі на цвінтары і могілках. Падаюся тады ў пошукі тамашняга культавага настаўніка, каб даведацца, ці можна сфатаграфаваць хаця згаданы помнік. Сама вёска Габовы Гронд выглядае даволі запушчанай — вуліца там мае грунтавы насціл; таксама цікава было б даведацца, чаму там такая „глыбінка”. На адным з панадворкаў гаспадар накідае віламі гной з хлява на прычэплены да трактара воз... Але святара-настаўніка не знаходжу, выехаў па справах. Каля адной з фортачак стаіць пажылы мужчына з „патрыяршай” бародкай і падыходжу да яго. А ён ветліва адмаўляе мне ўсялякай інфармацыі, нават „не ведае”, калі была закрыта суседняя школа...

Стараверства паявілася ў другой палове XVII стагоддзя ў Расіі, у выніку, як вышэй згадвалася, расколу ў Рускай праваслаўнай царкве. А раскол стаў вынікам — парадаксальна — уніфікацыйнага рэлігійнага праекта... Цягам стагоддзяў ад прыняцця хрысціянства ў канцы X стагоддзя на тэрыторыі Маскоўскай Русі ўсталяваліся некаторыя культавыя асаблівасці, іншыя чым у Візантыі і, напрыклад, у Вялікім Княстве Літоўскім.

А ў палітычным свеце Еўропа апынулася пад вялікай пагрозай з боку магутнай турэцкай дзяржавы, за якою ішла і іншая наступальная рэлігія — мусульманства. Новая рэлігія ўяўляла пагрозу старой, таму асабліва непакоіла папства, якое актыўна шукала супрацьдзеяння тадышняй усходняй супердзяржаве. Папскія дыпламаты актыўна хадайнічалі за прыцягненне на свой бок маскоўскай дзяржавы. Спярша намагаліся яны пасадзіць на маскоўскі трон каталіка і задачу гэту ўзяла на сябе Рэч Паспалітая, навязваючы Маскве Самазванцаў. Калі гэтая спроба аказалася беспаспяховай, тады трэба было задзейнічаць больш віртуозна. Адной з прынад для маскоўскіх уладароў меў стаць Канстанцінопаль, як прэстыжная праваслаўная сталіца, як сімвал панавання над тадышнім Усходам... Яшчэ раней папскія паслы прапанавалі такую здзелку Івану Грознаму, але той вельмі рашуча адмовіўся ад звання цара ўсяго Усходу: „Калі гаварыць пра Усходнюю імперыю, дык зямля Госпадава, і каму Ён захоча, таму яе і дасць. А мне хапае сваёй дзяржавы — іншых, большых дзяржаў — не жадаю...”.

У мастацтве сустракаецца матыў здзелкі з нячыстай сілай, мэтай якой ілюзорная зямная ўлада. Мастацкія ідэі не нараджаюцца ў вакууме, іх выносіць на свет рэальнае жыццё.

Наступіў іншы час, на маскоўскі трон уступіў іншы цар, Аляксей Міхайлавіч і яму ідэя спадабалася. Аднак пад Канстанцінопаль трэба было прыручыць маскоўскае праваслаўе, якое крыху адхілілася ад грэчаскай абраднасці — трэба было тую грэчаскую абраднасць прыняць; таксама трэба было выправіць і абрадавую літаратуру. Ажыццявіць гэты праект у палове XVII стагоддзя ўзяўся патрыярх Нікан. У ліку галоўных праваднікоў новаўвядзенняў апынуўся і прыбылы з Рэчы Паспалітай беларускі тэолаг Сімяон Полацкі, які адукаваўся ў розных навучальных установах, у тым ліку і езуіцкіх.

Але маскоўская народная рэлігійнасць грунтавалася не на глыбіннай веры, толькі на вонкавай абраднасці, таму яе змена выклікала глыбінны пратэст верніцкіх мас. Да тых мас далучыліся і некаторыя святары, якія лічылі сваю Русь святой, а сваю традыцыйную абраднасць адзінаправільнай, і спробы яе змянення разглядалі як умяшальніцтва нячыстых сіл, у ліку якіх яны асабліва бачылі лаціінства, а больш агульна — Захад. Разгарэўся канфлікт, які маскоўскія ўладары сталі душыць сілавымі прыёмамі. У 1667 годзе стараверства было абвешчана ерассю. Галоўны праціўнік новаўвядзенняў Авакум Пятровіч быў у 1682 годзе спалены на кастры.

Годам пазней у бітве пад Венай Турэцкая імперыя пацярпела лёсавызначальнае паражэнне, яна перастала пагражаць лацінскай Еўропе. І хаця ідэя Усходняй імперыі перастала займаць папскую дыпламатыю, яна не затухла, толькі перамясцілася на ўсход і стала самапрыводнай пуцяводнай зоркай маскоўскіх уладароў. Яна актуальная і сёння, дзе Масква, ужо без аглядкі на легендарны Канстанцінопаль, сутаргава намагаецца трымаць былую імперыю пад сваім ярмом.

Улады праслед староннікаў старой веры прымусіў апошніх шукаць сабе больш бяспечнага месца, таму яны сталі пасяляцца ў больш адлеглыя ад царскага вока рэгіёны, у тым ліку і ў межы Вялікага Княства Літоўскага, спачатку ў Прыбалтыку і Падняпроўе. У саміх старавераў таксама паявіліся расколы, розныя іх супольнасці па-рознаму разглядалі пытанні рэлігійнага і грамадскага жыцця. Праслед іх пазменна мацнеў і слабеў, а стараверы пасяляліся штораз шырэй за межы Маскоўскай Русі. У 1860-х гадах паявіліся яны і ў Аўгустоўскай пушчы, дзе заснавалі вёскі Бор і Габовы Гронд. Гады праследу прывілі ў іх некаторую канспіратыўнасць у іх нормы паводзін, адгэтуль, мабыць, і згаданыя забарона фатаграфаваць ды маўклівасць. А галенне барады лічыцца ў іх чужой праваслаўю грэшнай лацінскай выдумкай...

Руская праваслаўная царква ў 1971 годзе зняла са старавераў анафемы XVII-вечнай даўнасці, разлічваючы на своеасаблівы варыянт царкоўнай уніі і прыцягненне іх пад свой скіпетр з захаваннем імі, узорам Берасцейскай уніі, старой абраднасці. Аднак стараверы надалей лічаць паслядоўнікаў Ніканавых рэформ ерэтыкамі і адмаўляюць малітоўнага яднання.

Каля царквы ў Габовым Грондзе стаяць рыштаванні. Узведзеная ў 1948 годзе царкоўка патрабуе рамонту і сёлета тамашняй рэлігійнай абшчыне былі прызначаны фінансавыя сродкі з Падляшскай маршалкоўскай управы на абнаўленне.

Вёска Габовы Гронд знаходзіцца каля дзесяці кіламетраў на поўдзень ад Аўгустова, ад яе каля двух кіламетраў на захад да рэчкі Нэты, па пойме якой пракапаны Аўгустоўскі канал. З усходняга боку цягнецца стройны сасновы бор, які даходзіць да возера Кольна, якое з'яўляецца прыродным запаведнікам, выгадным для водных птушак. Берагі возера зарослыя і да іх доступ чалавека абмежаваны. Вікіпедыя: „Nazwa jeziora pochodzi prawdopodobnie od jaćwieskiego słowa *kal*, oznaczającego *błoto, muł*, nie zaś od kolistego kształtu”. Гэтае крышку зmененае „яцвяжскае” слова выступае таксама і ў назвах азіяцкіх азёр Ісык-Куль і... Байкал. Магчыма, што апрача насельніцтва з усходу, маем каля Аўгустова і гідраніміку з таго ж напрамку.

Абышоўшы недаступнае возера Кольна, выходжу на беластоцка-аўгустоўскую шашу, што пралягае па вобрубе вёскі Кольніца. Падарожніку, які едзе згаданай шашой, напэўна прыцягне ўвагу незвычайны касцёл у гэтай мясцовасці. Ён збудаваны ў 1980-х гадах у кшталце кветкі лілеі. Лілея гэта важны рэлігійны сімвал, гэта не толькі старазапаветны сімвал прыгажосці, гэта таксама новазапаветны сімвал набожнасці, чысціні і нявіннасці, асацыяваны з Дзевай Марыяй. Жывыя кветкі лілеі маюць па шэсць пялёсткаў, касцёл жа ў Кольніцы пабудаваны на плане актагону і мае восем „пялёсткаў”. Лік восем у хрысціянстве абазначае звышчасовасць, неўміручасць.

Касцёл у Кольніцы прысвечаны прылічанаму ў лік святых каталіцкаму манаху Максімільяну Кольбе, які ў час таталітарнага тэрору перыяду Другой сусветнай вайны ахвяраваў сваё жыццё ўзамен за выратаванне жыцця іншага вязня канцлагера; у праваслаўі падобны подзвіг здзейсніў прылічаны ў лік мучанікаў Грыгорый Перадзе. Пакутаванне ад прагных неабмежаванай улады рэжымаў кранае не толькі ўзведзеных у сан святасці. Яно кранае і свецкіх асоб, прыкладамі якіх Нэльсан Мандэла ці Алесь Бяляцкі. Кранае яно таксама і мільёны ананімных людзей. Ад крывавых паходаў згаданага цара Аляксея Міхайлавіча загінула, паводле некаторых ацэнак, каля паловы-трэці тагачаснага насельніцтва Беларусі, каля трэцічвэрці таго ж насельніцтва загінула ў час апошняй вайны. У іншы час таталітарны генацыд кранае насельніцтва Украіны. Не забраніравана ад яго і насельніцтва Расіі — паводле некаторых ацэнак ад уладалюбных памкненняў маскоўскіх уладароў загінула ў выніку ганенняў шмат непакорных зямным уладарам прывярженцаў старой веры, шмат іх у выніку адчайнага калектыўнага самаспальвання...

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**





Каплічка каля Кольніцы

Касцёл у Кольніцы

# Нашы ліцэі і мы (3)



Давайце яшчэ раз паразважаем над дарогай, якую прайшлі Бельскі і Гайнаўскі беларускія ліцэі і тым самым наша беларуская тутэйшая меншасць, бо лёсы іх былі падобнымі і ўзаемна пераплеценымі. І — як было ўжо сказана — былі яны ў пэўным сэнсе дарожнай картай нашага тут бытавання.

Пасляваенныя гады былі для нашага тутэйшага народа надзвычай цяжкімі, складанымі, худымі. З вялікімі складанасцямі і цяжкасцямі нараджалася таксама і беларускае школьніцтва, бо многім было яно не пад густ. Толькі дзякуючы нашым выдатным людзям, як, напрыклад, спамянутаму Яраславу Кастыцэвічу і яму падобным, яно ўсё ж такі ўзнікла і пачало памаленьку ўмацоўвацца, развівацца — і датрымалася, як бачым, дасюль. Якімі былі ўмовы навукі і працы ў першых беларускіх ліцэйскіх будынках і якой была першапачатковая база беларускага сярэдняга школьніцтва я ўжо гаварыў. Якой яна цяпер з'яўляецца ўсе наглядна бачым.

Ліцэі нашы ўвесь час змяняліся, развіваліся: як вонкавы і ўнутраны выгляд школьных будынкаў, так і тое, чаго і як у іх навучалі. У цэнтры Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі стаяць цяпер вялікія, прыгожыя ліцэйскія будынкі. На выгляд гэта ўжо школы XXI стагоддзя. І такімі яны сапраўды з'яўляюцца — мясцовымі сур'ёзнымі навучальнымі цэнтрамі. Параўнанне колішняга стану і кандыцыі ліцэяў з цяперашнім іх станам проста немагчымае, так моцна змяніўся іх выгляд, характар і ўмовы працы ў іх. Колькасна і якасна змянілася таксама ліцэйская моладзь і яе настаўнікі. Яны ўсе іншымі сталі і тутэйшыя нашы беларусы.

Ад пачатку існавання беларускага школьніцтва і нашых двух ліцэяў у Польшчы прайшло ўжо шмат часу. І нам, звязаным з гэтым школьніцтвам і ліцэямі, давялося за гэты час перажыць як многа добрага, радаснага, так і ненайлепшага. Вось аб некаторых з іх і пагаворым зараз. А што я быў больш звязаны з Гайнаўскім ліцэем, то ў асноўным і будзем гаварыць аб ім. Але — па-царкоўнаму кажучы — „радости и печали" ў нас былі ў асноўным падобныя.

Дзесьці ад другой паловы дзевяностых гадоў найбольш знанымі і папулярнымі паказчыкамі прафесійнай вартасці чалавека ці ўстановы сталі ў нас „рэйтынгі". І трэба прызнаць, што рэйтынгі даволі дакладна прасвечвалі працу і тым самым вартасць ліцэяў. І так, напрыклад, у рэйтынгу агульнаадукацыйных ліцэяў былога Беластоцкага ваяводства за 1997/98 год прыняло ўдзел 30 ліцэяў. Гайнаўскі беларускі ліцэй заняў у ім шостае месца... З чацвёртага нумара „Czasopisa" за 1999 год даведваемся: „Агульнаадукацыйныя ліцэі з беларускай мовай навучання з Бельска-Падляшскага і Гайнаўкі аказаліся ў першай дзесятцы агульнапольскага рэйтынгу ліцэяў '99. У рэйтынгу ўдзельнічала 675 школ з усяе Польшчы...". У чацвёртым нумары таго ж „Czasopisa" з 2003 года чытаем: „Opublikowano roczny ranking liceów ogólnokształcących województwa podlaskiego prowadzony przez „Gazetę w Białymstoku"... Białoruskie licea znalazły się na 6 i 11 miejscu...". І ранжыр агульнаадукацыйных ліцэяў Падляшскага ваяводства 2013 г. — беларускія ліэці апынуліся на 7 і 12 месцах...

Як бачым, у гэтых рэйтынгах нашы ліцэі займаюць увесь час толькі добрыя і вельмі добрыя месцы. І трэба нам гэтаму радавацца. Тым больш, што немалая частка моладзі штодзённа даязджае ў свае ліцэі з бліжэйшых і далейшых аколіц, а гэта немалая перашкода ў навучы...

Як было ўжо сказана, змяніліся не толькі нашы беларускія ліцэі, моцна змяніліся і ўсе, тутэйшыя беларусы. На гэтай складанай і нялёгкай пасляваеннай дарозе мы згубілі як многа цікавага, добрага, самабытна-нашанскага, так нямала і непатрэбнага, шкоднага нам баласту. Нямала і набылі: як добрага, так і нядобрага.

Калі параўнаем склад вучняў па іх сацыяльным паходжанні напачатку існавання ліцэяў і ў іх пазнейшых перыядах, то наглядна пераканаемся якія вялікія змены наступілі ў нашым грамадстве. Спачатку асноўная маса ліцэйскіх вучняў была сялянскага паходжання, значна меншая — рабочага, і проста адзінкі з інтэлігенцкіх сем'яў. Бо і адкуль магла ўзяцца ў нас інтэлігенцыя тады? Пры санацыйнай Польшчы беларусы жылі бедна. Зусім збяднелыя вярталіся з бежанства яны і адны руіны сустракалі іх дома. А навука каштавала тады многа. Ды і не было замнога сэнсу здабываць такім коштам яе, бо інтэлігенцкай працы праваслаўнаму беларусу тады не давалі. А потым наступіла змрочная нямецкая акупацыя...

Толькі ў Народнай Польшчы навука стала даступнай, масавай. І хоць з пэўнымі цяжкасцямі, але легальна паўстала беларускае школьніцтва. Беларусы гэтым шанцам ахвотна пакарысталіся — і так памаленьку пачала паяўляцца наша інтэлігенцыя.

Пахвальна, што гэтыя станоўчыя змены ў нас адбываліся дзякуючы, між іншым, і нашым двум беларускім ліцэям.

З перапоўненых нашых пасляваенных вёсак маладыя і лішнія людзі пачалі памаленьку адыходзіць у гарады, на фабрыкі, заводы, у школы. Вось як, напрыклад, пачаў выглядаць склад гайнаўскіх белліцэістаў па сацыяльным паходжанні ўжо ў 1998/99 навучальным годзе: сялянскае паходжанне — 15%, рабочае — 61%, інтэлігенцкае — 24%. Інакш як сацыяльным прагрэсам гэтых змен не назавеш. Тым больш, што так інтэлектуальна вырасла нашае грамадства. І канешне ж, што б тут не казаць пра мінулы час — гэта бясспрэчная заслуга таксама і Народнай Польшчы.

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**




# http://partisanmag.by

Можа падацца дзіўным, але беларускае сучаснае мастацтва, нягледзячы на адсутнасць патрэбы яго ў шырокіх народных мас, не толькі працягвае існаваць, але і развіваецца. Сёння такое мастацтва — гэта не асобныя мастакі ці літаратары, а вялікае кола прыхільнікаў, крытыкаў, паслядоўнікаў. Іх наяўнасць абумоўлівае з'яўленне адпаведнай перыядычнай літаратуры, якая знаходзіць сваіх чытачоў, што ў сваю чаргу спрыяе развіццю вышэйзгаданага беларускага сучаснага мастацтва.

Часопіс «pARTisan» узнік у 2002 годзе. У гэтым жа годзе з яго вырас буйны аднайменны медыяпраект і сайт, дзякуючы якому мы маем магчымасць пазнаёміцца з тым часопісам, не гартаючы старонак папяровай версіі. Віртуальнае прадстаўніцтва яго месціцца па адрасе http://partisanmag.by, выглядае даволі проста, але ў той жа час вельмі кідка і яскрава. Практычна да кожнага тэксту дадаецца ілюстрацыя, і гэтымі ілюстрацыямі аздоблены нават анонсы тэкстаў на галоўнай старонцы.

Выйсці да ўсіх рубрык знаходзяцца толькі ўверсе цэлага выяўлення пад назвай сайта. Уласна пра «pARTisan» як медыяпраект распавядаецца ў рубрыцы, якая ў пераліку выйсцяў стаіць самай апошняй і называецца „Часопіс".

„«pARTisan» — гэта буйны мэдыяпраект, які складаецца з часопісу «pARTisan» (выходзіць зь 2002 году), прысьвечанага сучаснай беларускай культуры, і сэрыі альбомаў беларускіх мастакоў «Калекцыя пАРТызана» (выдаецца зь 2009 году). Мы дасьледуем і прэзэнтуем самыя актуальныя, вострыя, спрэчныя зьявы ў беларускай культуры — арце, літаратуры, музыцы, кіно, тэатры. Мы ствараем і разьвенчваем куміраў, канструюем і руйнуем міты, насаджаем і адмаўляем каштоўнасьці. Мы імкнемся рассоўваць межы ня толькі ў пераносным, але і ў літаральным сэнсе: адсочваем новыя тэндэнцыі ў сусьветным мастацтве, супрацоўнічаем з замежнымі аўтарамі, пэрыядычна выдаем адмысловыя выпускі пра сучасную культуру асобных краінаў (Швэйцарыі, Польшчы, Нямеччыны)", — кажуць пра сябе „пАРТызаны".

Сваю сувязь са звычайнымі партызанамі яны тлумачаць словамі філосафа Барыса Акудовіча. „Партызан — гэта той, хто ўвесь час хаваецца (хованкі — адзіная нацыянальная гульня беларусаў), партызан — гэта той, хто заўсёды кажа пра сябе: «Мяне няма», партызан — гэта той, хто выяўляецца толькі ў момант дывэрсіі (у нашым выпадку — інтэлектуальнай ці эстэтычнай), а потым зноў зьнікае ў адсутнасьць самога сябе", — напісаў Акудовіч у сваёй працы „Апалагеты адсутнасці".

На той жа старонцы прадстаўлена рэдакцыя медыяпраекта, якая складаецца толькі з трох чалавек.

На сайце, акрамя „Часопіса", прадстаўлены рубрыкі „Арт", „Літаратура", „Кіно", „Тэатр", „Дыскурс" і „Актуаліі". Кожная з іх мае падрубрыкі, прычым амаль усюды прысутнічае „Асоба". То бок на сайце распавядаецца пра тых ці іншых людзей, творчасць якіх, з пункту гледжання рэдкалегіі, вартая ўвагі.

Падрубрыка „Навіны", што змешчана ў „Актуаліях", з'яўляецца свайго роду дошкай аб'яў. З яе можна даведацца аб выставах, лекцыях і іншых падзеях, якія маюць адбыцца бліжэйшым часам, у асноўным, у Мінску. Сайт упрыгожвае тое, што ідэйныя натхняльнікі медыяпраекта не забываюцца пастаянна абнаўляць старонку з навіннымі паведамленнямі і анонсамі.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Паэт з плеяды „Маладняка"

# 110 гадоў з дня нараджэння Паўлюка Труса



Беларускі паэт Паўлюк Трус нарадзіўся 6 траўня 1904 г. у вёсцы Нізок у сям'і малазямельных сялян. Родавай сялібаю роду Трусаў была вёска Старое Сяло, але незадоўга да нараджэння Паўлюка вёска згарэла і сям'я адбудавалася ў найбліжэйшым Нізку. З малых гадоў Паўлюк дапамагаў па гаспадарцы. Першым з дзяцей пачаў парабкаваць. У дзесяць гадоў хадзіў за бараною, крыху пазней вазіў з бацькам узімку лес да Вусы на сплаў, у дванаццаць браў першыя ўрокі аратага, потым дапамагаў пры касьбе.

Першую адукацыю атрымаў у вясковай школе, дзе таксама спяваў у хоры і маляваў вясковыя краявіды. У 1918-1923 гг. быў ва Уздзенскай вышэйшай пачатковай вучэльні, дзе моцна пасябраваў з Алесем Якімовічам і Пятром Глебкам. Некаторыя іх вершы змяшчаліся ў насценнай газеце. Пятро Глебка ўспамінаў, што вучні называлі будучага паэта „Паўлюк Шастаковых", відаць, праз тое, што яго бацька валодаў шостай часткай сялянскага надзелу.

Улетку 1920 г., знаходзячыся на вакацыях у Нізку, быў рэкрутаваны ў Чырвоную Армію. У дарозе хварэў і спрабаваў уцякаць. Паводле пазнейшых прызнанняў паэта, яго лавілі і білі. Вярнуўшыся з вайны, жыў у роднай хаце і дапамагаў бацьку па гаспадарцы.

У 1923-1927 гг. вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме ў Мінску. Пасябраваў з Язэпам Пушчам, Максімам Лужаніным, Сяргеем Дарожным, Зінаідай Бандарынай і іншымі. Быў пастаянным удзельнікам студэнцкага хору. Наладжваў пастаноўкі п'ес, быў акторам, маляваў дэкарацыі. Рэдагаваў насценную газету, пад псеўданімам „Шавец" выпускаў вусную сатырычную газету „Чырвоны прамень". Актыўна друкаваўся ў газетах і займаўся апрацоўкай фальклорна-паэтычных матэрыялаў для розных кампазітараў. У 1925 г. прыняты ў літаратурнае аб'яднанне „Маладняк". Удзельнічаў у першым з'ездзе літаратурнага аб'яднання і быў абраным у ягоны сакратарыят. У чэрвені 1927 г. атрымаў дыплом настаўніка сямігодкі, меў прапанову на рэдактарскую пасаду ў Мінску, але, нечакана для ўсіх, вырашыў пакінуць сталіцу і ўладкавацца ў Гомелі.

У Рэчыцы, Увараўскім і Буда-Кашалёўскім раёне Трус ладзіў вакальна-літаратурныя вечары, чытаў свой даклад „Беларусь і яе культура", дэкламаваў свае вершы. Пасля Гомеля вярнуўся ў Мінск. У верасні 1928 г. стаў студэнтам літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта БДУ. Узімку 1928 г. жыў у пакойчыку Міколы Хведаровіча па вуліцы Шпітальнай, пасля ў раёне сучаснай Серабранкі. Узімку 1929 г. уладкаваўся на працу ў Беларускі радыёкамітэт супрацоўнікам літаратурнай рэдакцыі.

Улетку 1929 г. выправіўся ў падарожжа па Магілёўшчыне і вярнуўся ў Мінск у сярэдзіне жніўня. Па дарозе дамоў сур'ёзна захварэў. Наведаў сяброў, якія адпачывалі ў Ждановічах пад Мінскам. Адчуўшы сябе зусім кепска, пакінуў Ждановічы і пехатою дабраўся да гарадскога шпіталя, ужо з высокай тэмпературай. Уратаваць паэта лекарам не ўдалося. Памёр Трус 30 жніўня 1929 г. ад тыфу ў 25-гадовым узросце. Пахаваны на вайсковых могілках у Мінску.

Паўлюк Трус — аўтар зборнікаў паэзіі „Вершы" і „Ветры буйныя". Рыхтаваў трэці зборнік пад назваю „Чырвоныя ружы". Многія творы выйшлі пасмяротна. У гонар Паўлюка Труса названа вуліца ў Мінску.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Адказ на крытыку

Пісаў я ў допісе „Выбоіны на дарозе" („Ніва" № 16 ад 20.04.2014 г.) пра дрэнную асфальтавую маставую на ваяводскай дарозе № 687 з Юшкавага Груда ў Навасады (вёска каля Гайнаўкі) цераз Бандары.

29 красавіка г.г. я атрымаў адказ на нашу крытыку намесніка дырэктара Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог у Беластоку мгр інж. Міраслава Ганчарука. Падаю яго ў арыгінале:

„(...) uprzejmie informuję, że nawierzchnia drogi wojewódzkiej nr 687 Juszkowy Gród — Bondary — Nowosady na odcinku od przejazdu kolejowego w Plancie do drogi do cmentarza w Lewkowie Nowym zostanie naprawiona w okresie wiosenno-letnim w ramach realizacji umowy na remonty cząstkowe".

Сёлетняя вясна ўжо на зыходзе. Што пасля вясны настане лета ўсім вядома. Невядома, ці спадар намеснік дырэктара ППВД, пішучы нам адказ, меў на ўвазе вясенне-летні перыяд 2014 года? Не інфармуе ён дакладна, калі будзе той рамонт 2-кіламетровага адрэзка дарогі: у якім месяцы і ў якім годзе. На рамонт новаляўкоўцы чакаюць ад восені мінулага года.

Я быў асабіста ў кабінеце намесніка дырэктара ў пачатку красавіка г.г. і прасіў адрамантаваць вышэйзгаданы кавалак дарогі. Ён паабяцаў мне, што дарожныя службы пачнуць рамонт яшчэ перад Вялікаднем. Надвор'е зараз адпаведнае для дарожных рамонтаў. Але зруху ў маёй справе ніякага.

Намеснік дырэктара ведае (пры апошняй нашай сустрэчы ўспомніў), што ў справе гэтай дарогі быў я ў яго ў мінулым годзе. І тады і зараз усё скончылася толькі на абяцанках. Я — солтыс Новага Ляўкова і карэспандэнт „Нівы" хачу, каб было больш бяспечна ездзіць па нашых дарогах. Не хачу больш абяцанняў, якіх не здзяйсняюць.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

## „Даліна" Дудкі

У клубе „Змена клімату" (Беласток, вул. Варшаўская, 6) **у чацвер 8 мая ў 18⁰⁰** пачнецца прамоцыя кнігі **Багдана Дудкі „Даліна. 3-над Нарвы і Свіслачы"**. Сустрэчу вядзе прафесар Іаланта Штахельская з Універсітэта ў Беластоку. Спатканне спалучана з канцэртам барда Марка Галонзкі.

Кніга „Даліна. 3-над Нарвы і Свіслачы" будзе прадстаўлена ў Гайнаўцы **у чацвер 15 мая ў 17⁰⁰** у Гарадской публічнай бібліятэцы па вуліцы 3 Мая, 45.

## Чаромхаўскі аповед (9)

Савецкія афіцэры-ЗКУшнікі Бельск-Падляшскі наведвалі амаль штотыдзень. Не рабілі там справункаў, толькі зразу падаваліся ў кніжны магазін. Аднойчы і я з імі сабраўся. Падарожнічаў я тады, як памятаю, у кампаніі капітана Казарэза і двух жанчын, жонак афіцэраў. Кнігарня змяшчалася па вуліцы Відаўскай, непадалёк эканамічнай школы. Калі зайшлі мы ў магазін, з прыкмецішчаў некалькі чалавек, разглядаючых вітрыны, і за прылаўкам светлавалосую прадаўшчыцу. Афіцэраў прывітала яна вясёлай усмешкай і кіўком галавы. З тылу выйшла сімпатычная карэнкаватага росту жанчына з цёмнымі кучаравымі валасамі. Зразу падалася ў бок гасцей, прывіталася спярша з камандзірам, затым з жанчынамі, абдымаючы іх як добрых знаёмых. Жонкі афіцэраў звярталіся да яе „пані Люда". Калі не памыляюся, была гэта загадчыца бельскай кнігарні Людміла Семянюк.

Паколькі савецкія госці падаліся з загадчыцай на тыл афармляць „свае" справы, я ілюстраваў вітрыны ўнутры кнігарні. У тагадашні час выбар савецкага друку, асабліва літаратуры, быў вельмі багаты. Ды і савецкія кніжкі напалову былі таннейшыя за айчынныя. Я грошай на кнігі не шкадаваў. Пры кожнай нагодзе намагаўся папоўніць дамашні кнігазбор. Праўда, на вітрынах кніжак айчынных і замежных класікаў было няшмат, але з-пад прылаўка можна было дастаць намнога больш. Як не зразу, дык па папярэдняй падпісцы. Такім блатам карысталіся савецкія афіцэры. Пасля і я далучыўся да іх кампаніі. Тады мая хатняя бібліятэка папоўнілася такімі творамі як „Война и мир" Л. Н. Талстога, „Угрюм река" В. Шышкова, „Обломов" И. А. Ганчарова, „Блокада" А. Чайкоўскага, „Пармская обитель" Стэндаля, выбраныя творы Анны Зегерс у шасці тамах, вершы Юліі Друнінай і Эдуарда Асадава, „Хождение по мукам" А. Талстога, „Плутония. Земля Санникова" В. А. Абручова, „Мёртвыя души" Гогаля ды дзесяткі іншых. Пры гэтым варта адзначыць, што савецкія выданні былі выкананы ў шыкарнай форме і ў цвёрдых вокладках. З Бельска заўжды мы вярталіся з багатым багажом.

Пасля некалькіх гадоў пражывання ў новым блёку афіцэры рашылі збудаваць у сябе саўну, інакш кажучы — рускую лазню з купальным басейнам. Для гэтай мэты прызначылі памяшканне пральні. Выкананнем незвычайнай здзелкі занялося мясцовае чыгуначнае прадпрыемства „Раён будынкаў". Неабходную для пабудовы драўніну выканаўца заказаў з СССР. Але аб гэтым у чарговай частцы.

*(працяг будзе)*

**Уладзімір СІДАРУК**

*Мікалай КОНІК*

## Бывай, родная хатка

*Бывай, родная хатка!*
*Бывай, радзімая мая!*
*Аж слёзы ў вачах закруціла:*
*Якой ты добраю была!*
*Тут маці хлеб нам падавала*
*І поўны кубак малака,*
*Якога смак я чую*
*Да сённяшняга дня.*
*Сто год даўно табе мінула,*
*Ужо ў зямлю ты ўрасла*
*І пахілаю ты стала,*
*Як бабуленька мая.*
*Намі ўсімі пакінутая ты,*
*Стаіш як кругла сірата.*
*Наўкол пахучага бэзу кусты,*
*Расце няскошана трава...*
*Сваё даўно ты адслужыла,*
*Там дзе мы бегалі, раслі.*
*І дзякуем табе так шчыра.*
*І разабраць цябе прыйшлі!*
*„Сыны-паганцы хату разабралі!" —*
*Сказаў бы добры бацька наш.*
*Пасля хвіліну бы падумаў,*
*Што нічога вечнага няма.*
*Вось табе, родная хата,*
*Ужо прыйшла свая пара...*
*Ля хаты рос каштан кашлаты,*
*Зімой ад ветру асланяў,*
*А ў летнюю ён спякоту*
*Цень над хатаю трымаў...*
*Усе радасці і думкі*
*Ты перадай яму.*
*Няхай спявае ў сваім лісці*
*Пра беларускую зямлю.*

## Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — баскійскую пагаворку.

1. „таварыш" кіслароду ў паветры = 23 _ 29 _ 3 _ 22 _;
2. аддалены працяжны шум = 6 _ 14 _ 7 _;
3. партнёр бабы = 31 _ 28 _ 5 _ 19 _;
4. чалавечак = 9 _ 10 _ 11 _ 12 _ 8 _;
5. расліна сямейства перцавых = 15 _ 16 _ 17 _ 18 _ 26 _;
6. правы прыток Пячоры з крыніцамі на поўначы Урала = 32 _ 21 _ 20 _;
7. жыллё мужыка = 1 _ 30 _ 2 _ 27 _;
8. месца заслоненае ад святла = 25 _ 24 _ 4 _ 13 _. (ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | 1 | 2 | 3 |
| | | | | | | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| | | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 15 нумара:** Ар, кебаб, рамадан, рэшата, Сыс.

Рашэнне: **Стары сабака дарма не брэша**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Яну Міхалюку** з Чыжоў і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

## 11.05 — 17.05

**(22.03. — 20.04.)** 11-14.05 хуткія і трапныя неадкладныя рашэнні. Талковасцю і інтэлігентнасцю з'яднаеш прыхільнасць. 11-13.05. шмат напруг, пільнуйся ад залётнікаў і асоб лішне мілых; раптоўныя парывы сэрца могуць аказацца фальшывымі. 14.05. — кепскі момант на змены і пазыкі. Асоба, з якою можаш мець раман, пакажа свой цёмны бок. 12-16.05. непрыемныя моманты будуць мець несумленныя і лянівыя Бараны — выявяцца іх занядбанні.

**(21.04. — 21.05.)** 13-17.05 — знакаміты час на падпісванне дамоў, яднанне саюзнікаў, шуканне падтрымкі; дагаворышся з тымі, з якімі не было табе па дарозе. Да 13.05. шмат напруг. Многа ажыўляльнай энергіі. Няма́ла нагод, каб падзарабіць. Грошы паплывуць да цябе жвавым струменем.

**(22.05. — 22.06.)** 10-14.05. шэф для цябе стане апорай; падтрымае цябе нават у такіх сітуацыях, калі з табою не згаджаўся. У пары навучыцеся размаўляць і даходзіць да канструктыўных кампрамісаў. Да 13.05. можаш мець праблемы з рэалізацыяй абятніц. Пастарайся дагаджаць сабе!

**(23.06. — 23.07.)** Адвага і рашучасць. Найлягчэй прафарсіруеш сваю думку і перастанеш паддавацца людзям, якія цябе выкарыстоўваюць. Да 13.05. нервовасць, непатрэбная спешка, скандалы, раптоўныя выпадкі. Здымі нагу з газу! У прыемнасцях таксама трымай меру! На працы рабі сваё, нават калі табе хтосьці кідае калоды пад ногі. Не спалохае цябе ніякая перашкода. Будзеш мець прыхільнасць высокапастаўленых асоб.

**(24.07. — 23.08.)** Будзеш хадзіць як пава. Засяродзься на сваіх мэтах. Магчымыя праблемы з галавой, насавымі пазухамі, мігрэнь. 12-16.05. варта пачаць радыкальнае лячэнне або новую тэрапію. Не выступай супраць кіраўніцтва, акажы цярплівасць і спакой. Поўня Месяца (14.05.) расстроіць цябе, непаразуменні ў сям'і, пагаршэнне настрою.

**(24.08. — 23.09.)** Няшчырасць, дробныя хітрыкі і падман, кепскі час на важныя размовы (да 13.05.). 14 мая нахлыне на цябе мара адпачыць у курорце (на мары можа кончыцца). Але ўвесь час дарога да ўшанаванняў. 10-14.05. будзеш ведаць, як задбаць аб свае інтарэсы, памнажаючы капітал, рашаючыся на смелыя інвестыцыі; знакамітыя вынікі на працы.

**(24.09. — 23.10.)** Добра абдумай усе лады ў пары. Папраў памылкі ў харчаванні. На працы скрупулёзнасць, рашучасць, нават адчай. Вялікія поспехі табе цяпер не пісаныя, але не будзеш стаяць у месцы; будзеш ведаць, на чым стаіш у фірме. 12-18.05. магчымыя складанасці. Пачнеш песімістычна глядзець на свет, баючыся таго, што не мусіць для цябе быць кепскім. Адзін благі рух можа табе шмат каштаваць!

**(24.10. — 22.11.)** Прыцягваць будзе цябе ўсё, што экзатычнае, незвычайнае, спантаннае і невядомае. Але застанешся хутчэй на пазіцыі назіральніка. Будзеш сапраўдным сябрам у найцяжэйшыя хвіліны. Навокал цябе будуць круціцца свет і людзі. Не апранайся залёгка, еж усё з вітамінам С. Пільнуй сваіх вачэй. Будзеш творчы і эфектыўны.

**(23.11. — 22.12.)** У пары найважнейшы абмен думкамі. У сяброўстве таксама важныя шчырыя размовы. 11-15.05. прадбачваюцца турботы, калі паверыш у дурноты, да якіх хтосьці схоча цябе пераканаць. Нават найвярнейшы прыяцель не мусіць аказацца добрым дарадчыкам. 16-17.05. будзе табе цяжка трапна ацаніць сітуацыю.

**(23.12. — 20.01.)** Будзеш мець пачуццё ўлады і перавагі над іншымі. 14-18.05. будзеш уражлівы на красу іншага полу. 16.05. — найлепшы дзень на любоўныя сустрэчы. Не выбірайся ў падарожжа ў большай кампаніі. Добры момант на лячэнне, хірургічныя аперацыі. Моцна трымай пры сабе кашалёк.

**(21.01. — 19.02.)** 11-12.05. небяспека аварый, пакалечання, кепскі час для медычных працэдур; дробныя перашкоды могуць папсаваць вялікія планы. Пасля аптымістычна. Радасць і энтузіязм, сіла духу і асаблівая трываласць.У пачуццях не заўжды ідэальна; размаўляйце. Ачышчай і адтручвай арганізм.

**(20.02. — 21.03.)** Шчырая атмасфера і канкрэтны падыход. Без праблем вырашыш важную справу, хаця 11-13.05. могуць на цябе нахлынуць чорныя думкі. Самотныя Вадалеі не будуць налягаць на амуры, затое ў пастаянных парах будуць старацца легалізаваць сувязь. Дома схочацца змяніць інтэр'ер. Май ясна акрэсленую мэту і ў рэалізацыі не здавайся на выпадак. Пачні займацца гімнастыкай. Не шукай працы 11-13.05.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7⁰⁰ – 18⁰⁰. Koszt połączenia wg taryfy operatora.
**Prenumerata w redakcji**
Prenumerata kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Planowana ilość numerów „Niwy" w 2014 roku — 52.
**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład**: 1 300 egz.

# Развітанне з белліцэем

**У Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы 113 выпускнікоў 25 красавіка развіталіся з настаўнікамі і сябрамі, а ў пачатку мая пачнуць здаваць матуральныя экзамены. Іх вынікі будуць вырашальнымі падчас паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. У ходзе ўрачыстасці выпускнікі атрымалі пасведчанні завяршэння вучобы, а самыя лепшыя вучні і іх бацькі — ганаровыя граматы.**

беларускай мовы Ян Карчэўскі, выхавацель аднаго з другіх класаў, вучні якога прыбылі развітацца са сваімі старэйшымі сябрамі.

За апеку і падрыхтоўку да матуральных экзаменаў прадстаўнікі выпускнікоў падзякавалі сваім настаўнікам і працаўнікам школы.

— Час, які мы правялі ў школе, будзем успамінаць з настальгіяй, бо гэта быў найлепшы час. Многаму мы тут навучыліся. Ад пабыўкі ў белліцэі застануцца ў нас цудоўныя ўспаміны, аб якіх будзем памятаць, — гаварылі абітурыенты.

У канцы сустрэчы вучні дарылі педагогам кветкі і асабіста дзякавалі за навуку. З выпускнікамі развіталіся другакласнікі, якія сваім старэйшым сябрам падрыхтавалі мастацкую частку: спявалі песні па-



Бацькі вылучаных выпускнікоў (Янка Карчэўскі прымае віншаванні ад дырэктара Яўгена Сачко)



— Пасля трохгадовай вучобы адыходзіце з нашай школы і, магчыма, што вашы дарогі разыдуцца. Спадзяюся, што ў вашай памяці застануцца прыгожыя ўспаміны супольна праведзеных гадоў. З вялікай дапамогай вашых бацькоў мы стараліся прывіць вам асноўныя прынцыпы, пашану, талерантнасць, праўду і адказнасць. Я хацеў звярнуць асаблівую ўвагу на асабістую ангажаванасць кожнага з вас у жыццё нашай школы — добра ацэненай у нашым асяроддзі і з традыцыямі, якія нас вылучаюць. Будзьце гордыя, што закончылі вучобу ў Гайнаўскім белліцэі, бо гэта добрая школа. Нашы выпускнікі не горшыя, а часам нават лепшыя ад абітурыентаў іншых школ Польшчы. Вы ведаеце беларускую літаратуру, культуру і гісторыю Беларусі і гэта вялікі ваш козыр, які дазволіць хадзіць у жыцці з паднятай галавой, — сказаў дырэктар белліцэя Яўген Сачко, адкрываючы развітальнае спатканне, і падзякаваў выпускнікам за супрацоўніцтва з настаўнікамі, адкрытасць і ангажаванне ў дзейнасць школы. — Шаноўныя абітурыенты, ідзіце праз усё жыццё з такім самым ангажаваннем і энтузіязмам, які адчуваеце ў сэрцах сёння. Не пакідайце вашых мараў і планаў, памятаючы, што ў кожнага з вас ёсць важная задача да здзяйснення. Жадаю вам, каб вопыт здабыты ў нашай школе даваў вам адвагу, веру ў сябе і дапамагаў дайсці да намечанай мэты. Памятайце, што працуеце на сваю будучыню.

Дырэктар Яўген Сачко падзякаваў таксама настаўнікам за ангажаванасць у школьны адукацыйны працэс і цярплівасць падчас працы з вучнямі, а бацькоў пахваліў за супрацоўніцтва і дапамогу школе. Госці сустрэчы, начальнік Аддзялення грамадскіх спраў Гайнаўскага старастваУладзімір Петручук і дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі пры Пасольстве Рэспублікі Беларусь у Польшчы Эдуард Швайко пахвалілі выпускнікоў за пасляховую трохгадовую вучобу і пажадалі ім поспехаў у далейшай адукацыі, а лепшым вучням уручылі ўзнагароды. Галоўныя ўзнагароды за вынікі і актыўнасць у карысць школы і асяроддзя атрымалі Магдалена Панасюк і Адрыяна Прусіноўская.

— Мы, вучні, добра дамаўляліся з настаўнікамі. Між намі была добрая атмасфера. Мая сярэдняя ацэнак на пасведчанні складае 5,63 бала. Апошнім часам я многа часу прысвяціла матэматыцы і фізіцы, бо хачу паступіць у Політэхнічны інстытут на спецыяльнасць будова самалётаў. Я рысую самалёты і цікаўлюся іх канструкцыяй, — сказала Магдалена Панасюк.

Раней прымала яна ўдзел у журналісцкіх майстар-класах «Зоркі», а будучы ўжо вучаніцай белліцэя стала фіналісткай Алімпіяды па беларускай мове. У размове са мной Магдалена Панасюк звярнула ўвагу на стыпендыю прэм'ер-міністра, якую атрымлівала апошнім часам. Вучні белліцэя былі таксама стыпендыятамі Гайнаўскага старасства — Стыпендыі імя Сімоны Косак (раней атрымала яе Магдалена Панасюк) і стыпендыі ўстаноўленай Маркам Сабалеўскім.

— Падчас вучобы ў Гайнаўскай белгімназіі, а пасля ў Гайнаўскім белліцэі, многа ў маім жыцці вырашылася і скранулася моцна наперад, у вялікай ступені дзякуючы беларускай мове, — сказала Адрыяна Прусіноўская.

Яна беларускай мове пачала вучыцца ў белгімназіі і тады з беларускімі песнямі пачала выступаць ад Студыі песні Гайнаўскага дома культуры, здабываючы ўзнагароды на конкурсах і фестывалі «Беларуская песня». Здабывала яна прызавыя месцы ў конкурсах «Сцэнічнае слова» і «Беларуская гавэнда», але найбольш паспяхова праявіла свой акцёрскі талент у тэатральных пастаноўках, апошнім часам у «Паўлінцы», рыхтаваных у Гайнаўскім белмузеі пад наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц.

— Вучні нашага класа біялагічна-хімічнага профілю хочуць стаць лекарамі, біятэхнікамі, вывучаць тыя спецыяльнасці, дзе трэба пахваліцца добрымі вынікамі па біялогіі і хіміі, — расказвала Адрыяна Прусіноўская. — Я буду паступаць у Тэатральную акадэмію ў Варшаву. Маю надзею, што мае выступленні ў пастаноўках на беларускай мове і дапамога Іаанны Стэльмашук-Троц дазволяць мне паспяхова справіцца з уступнымі экзаменамі. Калі б гэты план не здзейсніўся, то я хацела б працягваць адукацыю на ветэрынарным факультэце Галоўнай сельскагаспадарчай школы ў Варшаве (SGGW).

Міхаліна Герасімюк таксама займалася ў тэатральнай групе пад наглядам Іаанны Стэльмашук-Троц.

— Я рада, што ў белліцэі адчувалася беларускасць, што я магла ўдасканальваць валоданне роднай мовай, знаёміцца з беларускай літаратурай і культурай. Гульня ў тэатр у рамках тэатральнай групы пры Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы была здзяйсненнем маіх зацікаўленняў. Аднак я хацела б вучыцца ў вышэйшай навучальнай установе ў Варшаве на спецыяльнасці журналістыка і фатаграфія. Фатаграфія гэта маё хобі, а журналістыкай я зацікавілася дапамагаючы маме, — сказала Міхаліна Герасімюк, лаўрэатка Алімпіяды па беларускай мове.

Лаўрэатамі беларускай алімпіяды сталі таксама Мартына Сакалоўская і Уршуля Ніканчук. Фіналістам Алімпіяды праваслаўных рэлігійных ведаў стаў Адрыян Казімірук.

Падчас выступлення дырэктар Яўген Сачко пахваліў шматлікіх валейбалістаў з трэціх класаў і астатніх спартсменаў, удзельнікаў конкурсаў, членаў музычнага калектыву «Знічка», якія расслаўлялі белліцэй. Назваў таксама ўдзельнікаў іншых прадметных алімпіяд з трэціх класаў белліцэя — Адрыяна Казімірука, Катажыну Балтрамюк, Паўліну Бушко, Пётра Апольскага, Эдыту Мішчук. Выхавацелі трэцякласнікаў — Хрысціня Кісляк (клас «а»), Ірэна Грыгарук («б»), Эва Келбашэўская («ц») і Марцін Чабай («д») праінфармавалі сабраных пра поспехі паасобных сваіх выхаванцаў і разам з дырэктарам Яўгенам Сачко і гасцямі ўручылі лепшым абітурыентам і іх бацькам ганаровыя граматы, а ўсім вучням — пасведчанні аб выніках і заканчэнні вучобы ў Агульнаадукацыйным ліцэі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы.

— Я адчуваю задавальненне і радасць, што мая дачка Анна добра вучылася ў белліцэі і я, як бацька, з рук дырэктара Яўгена Сачко атрымаў ганаровую грамату па гэтай прычыне, — заявіў настаўнік беларуску і дэкламавалі. «Знічка» апошні раз выступіла ў старым складзе, бо выпускніцы далучыліся да сваіх малодшых сяброў, каб супольна заспяваць на роднай мове.

— Сёння я моцна ўзрушылася, бо канчаю вучобу ў школе, з якой зжылася. Развітаюся з настаўнікамі і сябрамі. Застануцца ў мяне вельмі добрыя ўспаміны, бо тут была вельмі добрая, свойская атмасфера. Мы былі асабліва згодлай грамадой у нашым файным класе, якога выхавацелем быў Марцін Чабай. Ён намі добра апекаваўся і ў многім нам дапамагаў, — заявіла Дамініка Юшкевіч, якая выступала ў калектыве «Знічка», удзельнічала ў беларускіх конкурсах. — Я — беларуска, і ў сваёй традыцыі ўзрастала дома. Таму беларуская мова, культура і нашы традыцыі былі мне такімі важнымі ў белліцэі.

— Мне і маім сямейнікам таксама блізкая беларуская культура і я рашылася выступаць у «Зніччы». У школе была таксама магчымасць вучыцца беларускай літаратурнай мове, — заявіла Паўліна Петручук, вакалістка «Знічкі».

З ліку трэцякласнікаў у «Зніччы» яшчэ выступалі Марлена Бяглюк, Вераніка Куптэль і Магдалена Леановіч.

— У нашай школе была дамашняя атмасфера і магчымасць пазнаёміцца з беларускай гісторыяй і культурай. Толькі тут, падчас вучобы ў белліцэі, я прыйшла да высновы, што я па нацыянальнасці беларуска і вучуся беларускай літаратурнай мове, якая з'яўляецца маёй мовай, — сказала Анна Ягадніцкая, самая лепшая вучаніца ІІІ «д» класа, якая хоча паступаць у Політэхнічны інстытут у Беластоку або Познані на спецыяльнасць архітэктура або будаўніцтва.

Іншыя мае суразмоўцы таксама называлі спецыяльнасці, на якія хочуць паступаць. Зацікаўленні гайнаўскіх абітурыентаў у вялікай ступені залежаць ад характару класаў, у якіх яны вучыліся. Адны хочуць стаць будаўнікамі, іншыя — лекарамі, а яшчэ іншыя — настаўнікамі. Аднак, каб здзейсніліся іх мары, неабходна паспяхова справіцца з матуральнымі экзаменамі. Затым жадаем поспехаў!

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

ISSN 0546-1960